ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА і МАСТАЦТВА

18 ЛІПЕНЯ 2003 г. № 29/4215





## Лета мастака

**У жывапісца Віктара АЛЬШЭЎСКАГА — надышло лета жыцця. Лета ў мастака — пара гарачая. Пажадаем яму творчага плёну!**



## З АДНОЮ ДУМКАЮ АБ ШЧАСЦІ БЕЛАРУСІ

***— пад такою назваю прайшло на радзіме Янкі КУПАЛЫ Ў Вязынцы Рэспубліканскае свята паэзіі***

Працяг тэкста на стар. 12

# КОЛА ДЗЁН

**Гэты дзень прайшоў пад зоркай XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску".**

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

У канцы чэрвеня на магіле Максіма Багдановіча ў Ялце быў пастаўлены помнік, які стварылі скульптары Сяргей і Лявон Гумілеўскія. Помнік зроблены са светла-шэрага граніту і атачаны чыгуннай агароджай. Задуменны Багдановіч трымае ў руках кніжку, а побач на падпорнай сцяне высечаны словы: "Кожную ночку на зорку дзівіцца буду ў далёкім краю". Помнік ужо асвечаны, дата ўрачыстага адкрыцця пакуль што абмяркоўваецца.

## УДЗЯЧНАСЦЬ ТЫДНЯ

Пасол Беларусі ў Варшаве Павел Латушка ўручыў ад імя Прэзідэнта нашай краіны Аляксандра Лукашэнкі медаль Францыска Скарыны сакратару Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы (БГКТ) Валянціне Ласкевіч. Яна ўзнагароджана за актыўную шматгадовую дзейнасць па развіцці беларуска-польскіх культурных сувязяў і захаванні беларускай культурнай спадчыны.

## УШАНАВАННЕ ТЫДНЯ

На праспекце Скарыны ў доме нумар 12 апошнія гады жыў лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі Вячаслаў Адамчык. 8 ліпеня на гэтым доме была адкрыта мемарыяльная дошка з выявай пісьменніка і яго імем.

## ЛІЧБЫ ТЫДНЯ

Паводле ацэнак падатковых органаў, у нашай краіне каля 200 грамадзян маюць гадавы даход больш за 200 мільёнаў долараў. За 2002 год максімальную стаўку падаходнага падатку ў памеры 30 працэнтаў заплацілі 3091 чалавек. Словам, калі ў краіне ходзяць грашовыя купюры, то іх у некага павінна быць вельмі шмат...

## МАРШРУТ ТЫДНЯ

З 17 ліпеня пачаліся рэгулярныя паветраныя зносіны паміж нашым Брэстам і расійскім Калінінградам. Па маршруце працуе самалёт Л-410, а забяспечваць рэйсы ўзялася адна з прыватных авіякампаній. Для палёту пасажырам не патрэбны ніякія візы, па часе ён зойме ўсяго 1 гадзіну 40 мінут. Каштуе білет 105 тысяч рублёў, але калі пасажыр бярэ білеты туды і назад, то яму будзе скідка ў 20 тысяч рублёў.

## СТАТЫСТЫКА ТЫДНЯ

На сённяшні дзень афіцыйны статус бежанцаў у Беларусі маюць грамадзяне трынаццаці краін. Усяго з пачатку працэдуры рэгістрацыі з хадайніцтвамі аб прызнанні бежанцамі па тэрыторыі Беларусі звярнуліся больш як 2,5 тысяч чалавек. Па стане на 1 ліпеня 2003 года афіцыйны статус бежанца быў прадастаўлены 672 іншаземцам. Сярод іх — 505 чалавек з Афганістана, 76 з Грузіі, 28 з Таджыкістана, 23 з Эфіопіі і 22 з Азербайджана.

## НОВАЕ ТЫДНЯ

У бліжэйшыя дні ў продаж паступяць новыя вучнёўскія дзённікі адзіных узораў для усіх школ нашай краіны. Паліграфічныя прадпрыемствы Гомельскай вобласці ўжо надрукавалі больш за 100 тысяч дзённікаў і цяпер адбываецца ўзгадненне канчатковай цаны рэалізацыі.

## ПАПАЎНЕННЕ ТЫДНЯ

Грамадзяне 16 краін, у тым ліку і Беларусі, якія перамяшчаюцца праз тэрыторыю Злучанага Каралеўства Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі, з 24 чэрвеня ў абавязковым парадку павінны мець транзітныя візы. Гэтыя дзяржавы папоўнілі спіс з 21 краіны, у адносінах да якіх аналагічны рэжым дзейнічаў раней. Кошт транзітнай візы складае 45 долараў, калі пасажыр не мяняе ў аэрапорце на тэрыторыі Вялікабрытаніі авіятэрмінал, і 60 долараў, калі ён накіроўваецца далей транзітам з іншага авіятэрмінала.

## РОСТ ТЫДНЯ

У нашай краіне для аўтаўладальнікаў зацверджаны новыя свабодныя аптовыя цэны на нафтапрадукты, што рэалізуюцца арганізацыямі сістэмы канцэрна "Белнафтахім" праз аўтазаправачныя станцыі. Цяпер літр бензіну А-76 каштуе 820 рублёў, А-92 — 1020 рублёў, А-95 — 1070 рублёў, літр дызпаліва (летняга) — 795 рублёў. Змяненне цэн на нафтапрадукты тлумачыцца іх ростам на сусветным рынку і ў суседняй Расійскай Федэрацыі.

ФЭСТЫ



***Менавіта вялікі круглы гадзіннік з боем упрыгожыў сцэну Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", які пачаў адлічваць свае фестывальныя дні акурат 12 ліпеня (напярэдадні фэсту 11 ліпеня выступілі такія славутыя эстрадныя зоркі, як гурт "Любэ" і Сафія Ратару).***

# ГЛЯДЗІ: 12-ЦЬ Б'Е!

**У гэты дзень дванаццаты па ліку фестываль, як быццам увайшоў у новы круг жыцця (менавіта гэтую думку ўклаў у "гадзіннікавую" сцэнаграфію сцэны Летняга амфітэатра мастак З. Марголін), засведчыўшы пра тое, што прыйшоў час) пэўнага яднання Беларусі і Расіі (12 ліпеня на фестывалі быў Дзень Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі), а таксама трох магутных славянскіх народаў (Дзень сяброўства брацкіх народаў Беларусі, Расіі і Украіны прыпаў на 17 ліпеня).**

**І сапраўды лічба дванаццаць на гадзінніку "Славянскага базару ў Віцебску" абазначыла пачатак ходу новых фестывальных механізмаў. Прынамсі, на прэс-канферэнцыі, прысвечанай адкрыццю XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў, міністр культуры Беларусі Л. Гуляка распавёў,**

ПЛАНЫ



***На сёлетнім "Славянскім базары у Віцебску" Дзяржаўны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга правёў дзве асабліва адказныя імпрэзы: урачыстае адкрыццё фестывалю (з трансляцыяй у "жывы" эфір), і праграму, прысвечаную памяці Уладзіміра Мулявіна, чые песні падрыхтавалі салісты аркестра.***

# ЖЫЦЦЁ — АРКЕСТР...

Цяпер, здавалася б, можна і адпачыць ад новых праектаў, тым болей, што сезон для аркестра быў вельмі насычаны: фестывалі ў Заслаўі, Нясвіжы, Міры, Мсціславе, Маладзечне, удзел у джазавых імпрэзах (Мінск, Вільня), гастролі па роднай краіне і выступленні ў Маскве... Аднак музыканты на чале з мастацкім кіраўніком, ад якога часцяком пачуеш: "Я жыву аркестрам...", працуюць над увасабленнем далейшых планаў. Задумана ёмістая анталогія беларускай песні — з яе ўзорамі ад XVII да XXI стст. У працяг манаграфічных цыклаў рыхтуецца прэм'ера 33-х новых песенных твораў на вершы Уладзіміра Караткевіча. Сярод інтэрнацыянальных праектаў вечарыны, прысвечаныя знаным творчым асобам: кампазітарам Марку Фрадкіну (ураджэнец Віцебшчыны, вучань Мікалая Аладава), Райманду Паулсу, кінарэжысёру Эльдару Разанаву.

Разам з Беларуссю адзначыць аркестр 60-годдзе вызвалення краіны ад гітлераўскай навалы. Гэтай даце будзе прысвечана нізка песень на вершы знанага паэта-франтавіка Міхаіла Ясеня. Са святочнай праграмай, прысвечанай юбілею вызвалення, наш заслужаны калектыў плануе аб'ехаць усю Беларусь.

С. Б.

НАЎЗДАГОН

# БАЛЕТ, БАЛЕТ

У мінулую нядзелю, 13 ліпеня, Нацыянальны акадэмічны тэатр балета Беларусі спектаклем "Лебядзінае возера" завяршыў свой сезон.

Вакацыі ў адным з найпапулярных творчых калектываў праляцяць амаль незаўважна для летняй сталіцы: пры канцы жніўня тэатр працягне працу, і 29-га мае адбыцца адкрыццё новага сезона. Ужо сёння публіка можа настройвацца на ўрачыстасці: будуць адсвяткаваны 70-годдзе тэатра і 30-годдзе творчай дзейнасці яго мастацкага кіраўніка, народнага артыста СССР Валянціна Елізар'ева. Дарэчы, у аўторак, дзякуючы СТБ, зноў можна было паглядзець фільм, які прысвечаны гэтаму юбілею ў жыцці маэстра і пра які "ЛіМ" пісаў:" Валянцін Елізар'еў. Люстэрка часу".

С. Б.

што, калі раней славуты фэст ладзіўся на працягу дзесяці-сямі дзён, то сёлета ён доўжыцца толькі шэсць — збольшага з прычыны фінансавых праблем (раней з бюджэта Саюзнай дзяржавы Расія выдаткоўвала 15-16 млн. рублёў). І каб пазбегнуць далейшых домыслаў у прэсе, міністр упершыню адкрыта назваў журналістам лічбы: сёлета з бюджэту Саюзнай дзяржавы Расія выдзеліла 9,3 млн. расійскіх рублёў, Беларусь — 15,593 млн. расійскіх рублёў. Фінансава падтрымалі "Славянскі базар у Віцебску" Прэзідэнт РБ, які прысутнічаў на святочным адкрыцці фестывалю, і Міністэрства культуры РБ (яно выдаткавала 25 млн. беларускіх рублёў). Аднак, па словах Л. Гулякі, скарачэнне дзён фестывалю ніяк не паўплывае на якасць вядомага фэсту.

Напрыклад, сёлета ўпершыню, распачаўшыся ў Віцебску, "Славянскі базар" пракаціўся па ўсіх абласных гарадах Беларусі. У рамках "фестывальнай мазаікі" канцэрты папулярных выканаўцаў XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прайшлі ў Магілёве (13 ліпеня), Дуброўна (15 ліпеня), Брэсце (16 ліпеня), Гродне, Магілёве (17 ліпеня). А завяршальны канцэрт адбудзецца сёння ў Мінску ў Палацы Рэспублікі. Эстрадныя зоркі з розных краін Еўропы (Беларусь прадстаўляюць І. Дарафеева, А. Ціхановіч і Я. Паплаўская, Н. Падольская, К. Слука) будуць спяваць у суправаджэнні Прэзідэнцкага аркестра РБ (галоўны дырыжор Віктар Бабарыкін), які сёлета ўпершыню меў гонар закрываць "Славянскі базар у Віцебску".

Адно з галоўных мерапрыемстваў фестывалю — XII Міжнародны конкурс маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-2003" у гэтым годзе таксама ладзіўся крыху ў новым фармаце. Ужо 11 ліпеня былі аб'яўлены імёны дванаццаці канкурсантаў, сярод якіх ( і гэта прыемна) засталіся два беларускія спевакі — У. Аўчароў і М.Сапацькоў. Трэба адзначыць, што раней беларусы ніколі не атрымоўвалі Гран-пры конкурсу, які неаднойчы з'язджаў у Югаславію, Украіну... Аднак па выніках першага дня фіналу конкурсу сярод маладых выканаўцаў эстраднай песні лідзіраваў наш М. Сапацькоў, а ў тройку лепшых увайшоў таксама і У. Аўчароў. І вось упершыню за 12 год фестывалю Гран-пры конкурсу (сёлета галоўны прыз атрымаў назву "Залатая ліра") дастаўся спеваку з Беларусі — М. Сапацькову. І Аўчароў быў узнагароджаны другой прэміяй — "Сярэбранай лірай".

Сёлета многія вячэрнія канцэрты ссунуліся па часе ў глыбокую ноч (напрыклад, першы дзень фіналу конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні распачаўся пасля гадзіны ночы). Дырэктар Дырэкцыі "Славянскага базару ў Віцебску" Р. Бас на гэты конт зазначыў, што сёлета ўпершыню дзякуючы абласному выканаўчаму камітэту яны набылі асвятляльную апаратуру на суму 1млн. 400 еўра, таму карцінка на тэлеэкране ў гэтым годзе мусіла быць самай лепшай (а светлавыя штукарствы якраз лепей за ўсё "іграюць" уначы).

На традыцыі ў рамках XII Міжнароднага фестывалю мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прайшло шмат цікавых мерапрыемстваў. 13 ліпеня ўпершыню на фэсце адбыўся Дзень славянскай паэзіі, у якім бралі ўдзел паэты з Расіі, Украіны, Македоніі, Беларусі (з нашых творцаў на фестываль прыехалі П. Вераб'ёў, І. Чарота, А. Салтук, разыгралі ўрыўкі са спектакляў паводле твораў Я. Купалы і У. Караткевіча артысты Коласаўскага тэатра і тэатра "Лялька"). У краязнаўчым музеі (Ратуша) прайшлі прэзентацыі "Выставы адной карціны" І. Рэпіна ("Месяцовая ноч. Здраўнёва", 1896 г.), выставы маладых мастакоў Віцебска і Смаленска "Этна"(дарэчы, ў цяперашняй сцэнаграфіі сцэны відавочны матывы віцебскіх мастакоў-авангардыстаў), свята беларускіх і латгальскіх ганчароў "Гліна — агонь і майстры", IV Фестываль званоў Беларусі "Свята звона", а ля Віцебскага дзяржаўнага музычнага вучылішча імя І. Салярцінскага адбылося адкрыццё помніка І. Салярцінскаму (аўтар — віцебскі скульптар В. Магучы, якому належыць стварэнне скульптурнай кампазіцыі "Залатой ліры"). На сцэне Летняга амфітэатра адыгралі гала-канцэрты майстроў мастацтваў Беларусі ("Зорка Мулявіна"), Украіны ("Мелодыі Дняпра"), Расіі ("Жыццё без стрэлу на зямлі"). Несумненна, што сёлета сапраўднай зоркай фестывалю зрабіўся славуты расійскі спявак М. Баскаў, якога вельмі цёпла прымалі віцебскія гледачы (асабліва, віцяблянinfo).

На жаль, у гэтым годзе праграмы "Тэатральных сустрэч-2003", кінапаказаў таксама значна скараціліся. Падчас фестывалю ў кінатэатры "Спартак" адбылася прэм'ера беларускай карціны "Легенда пра Анастасію Слуцкую", пад адкрытым небам прайшла дэманстрацыя фільмаў чэшскіх рэжысёраў братоў Чадзікаў, на сцэне Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа былі разыграны спектаклі ў рэжысуры Р. Віктюка ("Маю жонку завуць Морыс"), С. Кутасава ("Старыя рускія"), І. Райхельгаўза ("Усё будзе добра, як вы хацелі").

Вольга БАРАБАНШЫКАВА



зранку пасля ўчарашняга!) І не толькі я так жыў. А вось Цішуроў лічыць, што ён *"выбраў волю, каб тварыць"*. (Зрэшты, хіба праца дзеля хлеба надзённага ёсць таму перашкодай?) А ўжо калі ён даведаўся, што журналісты мясцовай газеты *"зарабляюць у месяц да 300 тысяч рублёў"*, то яго *"ахапіла зайздрасць... чаму ж мяне маці не нарадзіла здольным пісаць артыкулы аб праблемах сельскай гаспадаркі, а вершатворцам"...* Плачацца Валодзя і з прычыны малога ганарару за сваю колішнюю празаічную кніжку. Ды вось жа ўгаварыў ён вядомага дэпутата У.Канаплёва і выдаў у 2001 годзе зборнік вершаў "Маўчана" (які, аднак, сціплы і палярны назоў адносна нашай гаворкі!).

І вось што піша ён у сваім артыкуле далей: *"Пайшлі з жыцця мае земляні паэты Міхась Кушнароў, Уладзімір Кунцэвіч. Пакінулі выдатную спадчыну. Не выдалі аніводнай кніжкі сваіх вершаў... Такая ўжо ў іх была непрактычная натура. Неарганізаваная. А паэт У.Кунцэвіч мусіць баяўся пытання ад выдавецкіх чыноўнікаў: "Дзе вы працуеце?.." Апошнія шаснаццаць год жыцця ён працаваў толькі над вершамі. (?! — маё глыбокае здзіўленне —* ***Л.Г.****) Наша раённая газета з маёй ініцыятывы звярнулася да мясцовай інтэлігенцыі з прапановай: ахвяраваць па дзве-тры тысячы рублёў на выданне кніжкі вершаў Міхася Кушнярова. Пакуль ніхто не прынёс. Так што мне, у параўнанні з маімі старэйшымі братамі, пашанцавала... усё ж выдаў я свае вершы кніжкай."*

Дык, Валодзя, напрошваецца сустрэчнае пытанне: чаму за тыя дармовыя для цябе дэпутацкія грошы не выдаць было два невялічкія (альбо два ў адным) зборнічкі вершаў сваіх упомненых землякоў? Тым больш, што да вартасцяў уласнай выдадзенай кніжкі ты ставішся даволі сумнеўна: *"Праўда, які эфект ад тых вершаў? Цяжка сказаць, але, мусіць, слабы"*. Самакрытычнасць вельмі добрая якасць для творчага чалавека. Вось толькі, каб у дадатак да таго вялася бесперапынная "работа над памылкамі"... Тады, мабыць, не пісаліся б і не друкаваліся б на спонсарскія грошы тыя радкі, як гэтыя, што, дарэчы, месяцца ў зборніку "Маўчана" праз старонку пасля працытаванага вышэй верша пра родную хату:

*Я — нічыйны,*
*як кот памыйны,*
*закарэлы й брудны,*
*як свінка...*
*Мною кіруюць інстынкты.*
*Я — не вабны*
*й не прывабны.*
*І ў спешцы —*
*у непрыгожай адзежцы".*

Ці не такія складухі і з'яўляцца падчас падставай для вынасу ганебнага вердыкта ўсім беларускім паэтам (пардон, за выключэннем Барадуліна і Бураўкіна!) у рэспубліканскім друку?

Ёсць над чым паразважаць. І не толькі Цішурову, Сысу, Купрэеву і Галубовічу. А ўсім беларускім літаратарам. Без выключэння.

Шчыра кажучы, найбольш засмуціў мяне ў артыкуле вось гэты пасаж нышчаснага паэта: *"Пазайздросціш рабочаму чалавеку, які адпрацаваў восем гадзін і ведае, ён нейкую капейку зарабіў. Над аповедам, вядомая рэч, трэба працаваць галавой, мазгамі... а калі ўжо "засвеціць" табе тая капейка, Бог ведае...У мяне такі вопыт. Мо ў каго ёсць лепшы. Узнікае пытанне, а на якія грошы жыву? Мае дзяды і бацькі — з сялян, і я па іх удаўся... За сена даюць малако і грошы — на хлеб. Быў час — сек адной пенсіянерцы дровы. Сам сек, сам на кані вазіў. Бабулі той ужо няма на свеце... (...) Я выбраў волю, каб тварыць. Але яна падносіла і падносіць мне горкія пілюлі. Праўда, калі-нікалі напішу артыкул у раёнку, і атрымаю ганарар у тры тысячы шэсцьсот рублёў. Сумная, але радасць, бо гэта сумленна заробленае. Мае землякі — рабочыя, педагогі — ездзяць у Падмаскоўе на заробкі. Прывозяць дадому па трыста, а то й васемсот "баксаў". На жаль, няма ў мяне будаўнічай спецыяльнасці... Хто возьме ў кампанію пісьменніка? Гэта ж нейкі іншы чалавек, а не шабашнік..."*

Педагогі, значыць, могуць асвоіць будаўнічую спецыяльнасць, каб пракарміцца, а паэт — не, беларучка гэткі. (А падобным чынам, спадар Цішуроў, зараблялі ў свой час і Мінкін, і Мудроў, і шмат хто яшчэ, а Клімянкоў займаецца тым і да гэтай пары, і не ў Расіі, а тут, пад Мінскам. А Валодзя Міхно ездзіць на няблізкую паўштатную работу ў раёнку на ровары... Толя Кудласевіч з прэстыжнай працы на Белтэлерадыё змушана сышоў і працуе слесарам на мінскім заводзе халадзільнікаў "Атлант". Падобныя прыклады можна множыць і множыць...)

Не трэба спадзявацца на аморфную панацэю звыш: вось прыедзе "барин", вось дадуць, вось прымуць... Каб пасля не крыўдаваць і не ёрнічаць: *"Знаёмая жанчына, разумная, адукаваная, выхаваная, калі мяне не прынялі ў СП, сказала: "Это — судьба..." Яна гаворыць толькі парускu. Я не веру ў лёс, як не веру, што з чалавекам можа адбывацца толькі дрэннае. Я веру, што недзе ў нейкім тоўстым часопісе ёсць рэдактар, які не назаве мой жудлівы аповед пра жыццё-быццё "замалёўкай". І ён нават наважыцца прапанаваць яго ў друк..."*

Як той казаў, было б што, а рэдактар сапраўды знойдзецца. Вось гэтае ШТО, а не чорт ведама што, найбольш мяне займае і хвалюе. Давайце найперш паважаць сябе як творцаў, калі ўжо лічым сябе такімі. Давайце пісаць (тварыць) не толькі дзеля матэрыяльнага набытку, а для чытача. Інакш — навошта?! А будзе чытач — з'явіцца і адпаведны грашовы стымул.

Надта ж многа заявак на вакантныя сёння месцы Прарока ("небожителя" альбо Месіі, як празвалі прыхільнікі "скураной сферы" Эдуарда Малафеева ў нашым футболе), апосталаў і проста пеўчых і падпявал...

А дзе ж, хлопцы, сам футбол, дзе нацыя?!

Што й казаць як піша Цішуроў: *"Негатыўнага хапае. Няма сэнсу прыгадваць розныя крыўды, накшталт таго, што адна раёнка друкавала мае гумарэскі і лічыла, што аўтар абыдзецца без аплаты за працу. Можа, і гэта "Судьба"? Я не напішу рамана, таму што не здольны гэтага зрабіць. Аб'ёмнага не пішу. Але я выбраў волю, каб тварыць. Воля гэта творчая, хоць бываюць дні і тыдні творчага бяссілля і дэпрэсіі, і анічога пакуль што не прыдумаў, каб і службу мець з акладам і пісаць вершы, навелы, нарысы".*

На тым і канчаецца артыкул Уладзіміра Цішурова. Можна сказаць, ні на чым... Абрываецца на бязважкіх, пустапарожніх словах... На іх не ўтрымаешся ні з акладам, ні без аклада...

Я разумею драматычную калізію жыцця гэтага небесталаннага паэта з Кругляншчыны. Але які сапраўдны Паэт — без драмы і трагедыі? Галоўнае ў падобнай сітуацыі — не растаптаць чалавечнае ў гэтай жорсткай барацьбе за выжыванне. Без Чалавека творцы не бывае.

Каб нікому болей не даваць падстаў для абразы. А заадно і папярэдзіць сваіх магчымых крыўдзіцеляў, каб яны асцерагаліся трапляць пад нашу нялёгкую пісчую руку падчас нашай абсалютна зразумелай прагі сатысфакцыі абражанага літарацкага гонару.

*Пакуль спяваюць паэты —*
*жыццё іх песняй сагрэта.*
*Дайце паэтам —*
*па кабінету...*
*Не палітычнаму,*
*а — паэтычнаму!*
*А гэты кабінет-пакой —*
*ой-ёй-ёй!..*
*Свет увесь*
*і край занядбаны мой!*

**Леанід ГАЛУБОВІЧ**

г.Мінск,
29.06.03 г.



# «НЁМАН», № 6

Выйшаў з друку чарговы нумар часопіса "Нёман". Адкрываецца ён шчырай размовай Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі часопіса "Наш современник" Станіславам Куняевым і Аляксандрам Казінцавым. Асноўная тэма гутаркі — саюз Беларусі і Расіі.

У раздзеле "Поэзія" чытачам прапануюцца грунтоўныя нізкі вершаў лаўрэатаў Дзяржаўнай прэміі Валянціна Лукшы "Путешествие во времени" (пераклад на рускую мову Эдуарда Скобелева) і Міколы Мятліцкага "Начало дня, как мира сотворенье..." (пераклад на рускую мову Браніслава Спрынчана). Змешчаны таксама вершы Ніны Шэлдышавай і (упершыню ў "Нёмане") Людмілы Шадукаевай. Абедзве паэткі пішуць на рускай мове.

Сярод прозы на гэты раз — новы раман добра вядомага празаіка Міхаіла Герчыка "Оружие для убийцы". Твор сучаснай тэматыкі, які апавядае аб вернасці і подласці, аб тым, як пагоня за нажывай калечыць чалавечыя душы. Друкуецца і заканчэнне рамана Таісы Бондар "Искушение", прысвечанага знакамітай постаці ў гісторыі Беларусі — славутай асветніцы Еўфрасінні Полацкай.

Сярод публіцыстычных матэрыялаў заслугоўвае ўвагі артыкул прарэктара Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта Івана Мартынава "Мертвые сраму не имуть". Аўтар узнаўляе гераічнае мінулае Магілёва, старонкі мужнай абароны горада на Дняпры на пачатку Вялікай Айчыннай вайны, легендарнасць партызанскага атрада С. Грышына. Магілёў заслугоўвае высокага звання горада-героя, доказна сцвярджае публіцыст.

У рубрыцы "Общество. Идеология. Государство" з артыкулам "Православие и власть" выступае доктар філасофскіх навук, прафесар Валянцін Акулаў. "Праваслаўе, — робіць вывад вучоны, — стаіць сягоння на шляху ўстанаўлення "новага сусветнага парадку", таму, выпрацоўваючы дзяржаўную ідэалогію Беларусі, мы павінны гэта цалкам улічваць".

Літаратуразнаўства прадстаўлена артыкулам прафесара Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Аляксандра Рогалева "Одна русская". Матэрыял прысвечаны жыццю і творчасці графіні Ірыны Іванаўны Паскевіч, якая жыла ў Гомелі і першая пераклала на французскую мову раман Л. М. Талстога "Вайна и мир". У раздзеле "Литературная критика" Алесь Марціновіч рэцэнзуе палітычны дэтэктыў Мікалая Чаргінца "Тайна Овального кабинета", а Яўген Каршукоў — кнігу прозы Раісы Баравіковай "Вячэра манекенаў".

Маючы багатую пошту, часопіс пастаянна змяшчае найбольш цікавыя допісы сваіх карэспандэнтаў. У гэтым нумары ўвазе чытачоў прапанаваны артыкул Вікенція Мыцько, які разважае пра мінулае і сучаснае жыццё Беларусі і выказвае свае меркаванні наконт саюза з Расіяй. Друкуецца і водгук Любові Грамыкі на публікацыю ў "Нёмане" (№№ 1-2, 2003 г.) рамана Сяргея Зайцава "Пепел и снег". У тых, хто яшчэ не прачытаў яго, "напярэдзе мора перажыванняў і ўзвышанай радасці", — піша ЯНА. І з гэтай высновай нельга не пагадзіцца.

**Міхась ЖУРАВІНА**

Мастак Стаўровіч з апавядання "Партрэт" прыйшоў восеньскай парою ў здзічэлы парк, каб намаляваць карціну — стары напаўразбураны мур. Аднак праца не ішла. За гады жыцця душа страціла чысціню, "шчырую ўражлівасць". Нечакана паявілася жанчына, спітая і неахайна апранутая. Яна села на лаўку і бясконца курыла. І Стаўровіч пачаў маляваць, "страціўшы пачуццё часу, пачуццё рэальнасці"... А калі нарэшце праца была скончана, і жанчына зірнула на партрэт, то сябе там не пазнала: "некуды ўдалеч глядзела натхнёным позіркам статная дагледжаная маладзіца", седзячы "на беласнежнай лаўцы, паклаўшы адну руку на яе спінку, а другою вітаючы некага далёкага..."

Жанчына і праўда была некалі такой. Толькі вось жыццё хутчэй за ўсё не склалася, пайшло наўскасяк, але лёс кабеты нам невядомы, ён за кадрам.

А мастак, узрушаны партрэтам, ляжаў на траве і глядзеў у вячэрняе неба. Ён плакаў...

Вобраз неба часта паўстае ў творах А. Крэйдзіча. Яно выступае сімвалам ісціны ў "апошняй інстанцыі", прычым ісціны недасягальнай. Гледзячы ўверх, глядзіш на самога сябе. Некаторыя героі аўтара імкнуцца туды, нібы хворы да паратунку.

Тэма кахання і сямейных адносін узнімаецца пісьменнікам у апавяданнях "Чорная вавёрка", "Шчаслівая ты, Ленка", "Фантазія на тэму кахання", "Смех", "Плюшавае сабачаня", "Хуліган". Прычым у кожным, здаецца, бытавым сюжэце А. Крэйдзіч знаходзіць нешта прыўзнята рамантычнае, лірычна-ўзнёслае, тое, ад чаго жыццё прыгажэе, харашэе душой чалавек.

Праблема бацькоў і дзяцей вырашаецца ў апавяданні "Баравы мёд", калі бацька прыязджае да дачкі ў горад з харчам, але трапляе не ў зручны час — хутка павінны быць госці, а за бацьку перад імі дачцэ няёмка. Запэцканы слоік мёду на стале сярод крышталю і фарфору выглядае чужым. Гэта дакор за страту памяці і павагі перад роднымі. І дачка не вытрымлівае, даганяе бацьку.

Даволі цікавымі аказаліся два апошнія апавяданні зборніка — "Разграфаваны сшытак у белай вокладцы" і "Мухамор". У першым — мужчына выпадкова сустракаецца з даўняй знаёмай, некалі "круглай" выдатніцай, пасля адказным работнікам на высокай партыйнай пасадзе, а цяпер — прастытуткай для выбраных. Аўтар з псіхалагічнай дакладнасцю раскрывае прычыны маральнага падзення жанчыны, прыводзіць яе дзённік у якасці пацвярджэння той думкі, што нават разумеючы свае памылкі, чалавек усё роўна знаходзіць апраўданне сваім дзеянням, бо па натуры ён эгаіст. Жыццёвая філасофія гераіні церпіць крах.

Творы А. Крэйдзіча псіхалагічна заглыбленыя, яны патрабуюць настойлівай працы думкі.

Пра тое, як нават у загрубелай і "непрабіваемай" ад цяжкага жыцця душы ёсць месца для спагады, расказвае апавяданне "Мухамор".

Чытаючы творы А. Крэйдзіча, знаходзіш у іх нешта шукшынаўскае — добрае, запамінальна-яркае, вечнае. Яно і ў каларытнай, вобразнай мове, і ў выразнай лірычнай плыні, у духоўна чыстым каханні, псіхалагічна дакладным партрэце, рамантычна нястомным пошуку спрадвечных ісцін... Нічога лішняга. Усё да месца. Аповед цячэ спакойна, плаўна, даверліва. Як і павінна быць у добрай прозе, ад якой і душа дабрэе.

**Сяргей ГРЫШКЕВІЧ**

яе гераіні Улі – гэта і выява сублімацыі – ператварэння нерэалізаванай сексуальнай энергіі ў творчую. Каб сублімацыя адбылася, лепш энергію жарсці акумуляваць у сабе, а не растрачваць, каб сублімаваны твор атрымаўся паўнавартасным па сваёй энергетычнай моцы (успомнім з фізікі закон захавання энергіі). Адсюль заяўленая намі ў назве рэцэнзіі "цнатлівая сексуальнасць" Аксаны Бязлепкінай і яе любімых гераінь, прататыпам якіх, мабыць, з'яўляецца яна сама.

У сваёй дэтэктыўнай прозе аўтар спрабуе правесці фактычнае і псіхалагічнае даследаванне сітуацыі забойства маладых асоб, з якіх адзін загінуў ад удару тэніснага мячыка па соннай артэрыі, другую, калі тая стаяла на роліках, падбіла машына, трэці праваліўся ў каналізацыйны люк. Аўтар адказвае на пытанне: "Чаму людзі пішуць дэтэктывы? Ім альбо ёсць, што сказаць (калі пішуць міліцыянеры), альбо ёсць, каго забіць. Напрыклад, маецца вораг ці проста непрыемная асоба. Аўтар забівае свайго героя, потым шкадуе яго і пераносіць такія свае пачуцці на прататып".

Аксана добра валодае майстэрствам псіхалагічнага аналізу, пляцення інтрыгі, закручвання сюжэта, індывідуалізацыі мовы і характару персанажаў, у яе выдатнае пачуццё гумару і багатае ўяўленне. Дыялогаў у кнізе больш, чым апісанняў, што дынамізуе працэс яе прачытання і адпавядае лаканізацыі амаль усіх літаратурных жанраў пад уплывам шалёнага тэмпу XXI стагоддзя. Гэта добрая студэнцкая проза, займальная і інтэлектуальная (з папраўкай на ўзрост аўтара). У Аксаны Бязлепкінай дастаткова вялікі энергапатэнцыял працаздольнасці, страсць да творчай споведзі перад аркушам паперы ці дысплеем камп'ютэра. А гэта нямала для празаічнага дэбюта. Як аўтар прызнаецца, "я пішу, бо не магу не пісаць! /.../ Натхненне не задушыш, нават калі яно перашкаджае запісваць лекцыю"...

**Тацяна БАРЫСЮК**

**КРЫТЫКА**

# «СПЛЫЛА ПА ПРЫПЯЦІ У ВЕЧНАСЦЬ МАЛАДОСЦЬ...»

Ёсць у нас на Палессі вёска Ведрыч, у якой жыў і тварыў вядомы беларускі паэт, празаік, публіцыст, педагог Уладзімір Верамейчык. Мне пашчасціла ўбачыць яго даўно, яшчэ ў гады майго студэнцтва ў Мазырскім педагагічным інстытуце, куды паэт прыязджаў на наладжаную ў яго гонар вечарыну, чытаў вершы, гаварыў са студэнтамі... Жыццё маё склалася так, што творчасць У. Верамейчыка стала для мяне лёсавызначальнай, блізкай і зразумелай, хоць асабіста з гэтым чалавекам я не была знаёма. Другой сустрэчы з паэтам, на жаль, не адбылося, бо 26 снежня 1999 г. сэрца Уладзіміра Міхайлавіча перастала біцца, але сувязь мая з земляком-палешуком і яго творчасцю стала больш моцнай, духоўнай, калі я стала аспіранткай Гомельскага дзяржуніверсітэта імя Ф. Скарыны. Я запомніла на ўсё жыццё гэтага адукаванага, ветлівага, красамоўнага, з глыбокім пачуццём гумару, вялікага чалавека з добрымі і чамусьці сумнымі вачамі...

Гэты не разгаданы раней сум я імкнуся зразумець па сённяшні дзень. Магчыма, яго прычына ў перажытых гэтым чалавекам жыццёвых пакутах (як вядома, у 1991 г. ва ўзросце 25 гадоў трагічна загінуў адзіны сын паэта, а праз два гады памерла мама У. Верамейчыка Соф'я Данілаўна Збароўская). А можа, асабісты фізічны боль не даваў спакою (паэт цяжка хварэў, перанёс некалькі аперацый). Ды і пастаянныя клопаты педагога, дырэктара школы пакідалі свой адбітак на здароўі Уладзіміра Міхайлавіча... Не ўсё было гладка і ў творчым плане. Так, выхаду ў свет сваёй кнігі баек і сатырычных вершаў «Магарыч» (1994) паэт чакаў больш за 15 год, пакутаваў ад цэнзуры і вобыскаў (пра гэта пісаў А.Кудравец у «ЛіМе», 2000, 4 лютага).

Але час ідзе, і сёння я вельмі ганаруся тым, што ў 2001 г. імя Уладзіміра Верамейчыка нададзена школе ў вёсцы Ведрыч Рэчыцкага раёна, дзе ён 35 гадоў працаваў дырэктарам.

Уладзімір Верамейчык – аўтар шасці паэтычных зборнікаў. Яго паэзію вызначае паэтычная вартасць, сур'ёзнасць праблематыкі, удумнае стаўленне да радка, уменне ставіць на першы план самае істотнае. А яшчэ што ўразіла мяне, – гэта вернасць паэта аднойчы абранай тэме, аднаму скразному вобразу ўсёй яго творчасці – вобразу Прыпяці. «Прыпяць» – так назваў У. Верамейчык сваю першую кніжку, якая выйшла ў свет у 1973г. і стала яго паэтычным першаўкосам. Паэта натхняла палеская рака-прыгажуня, сімвал мужнасці і чалавечнасці беларусаў. Гімнам Прыпяці стала ўся творчасць паэта, да яго апошняга радка, пра што засведчылі ўсе наступныя зборнікі паэзіі У. Верамейчыка: «Яснасць» (1978), «Люблю!» (1981), «Клянуся Прыпяццю» (1988), «Ліхаўня» (1997). Яшчэ першы зборнік паказаў, што ў беларускую літаратуру прыйшоў аўтар з даволі выразнай грамадзянскай пазіцыяй і ўласным бачаннем свету, здольны чуйна рэагаваць на шматлікія жыццёвыя з'явы. Але ўвесь час паэт лічыў меркай чалавечнасці і маральнасці раку маленства.

Прыпяць – увасабленне магутных сіл нашага народа, сімвал цярпення і мужнасці. Як і самі беларусы, яна добрая, цярплівая, гасцінная, шчырая:

*Яна ніколі не адпусціць*
*Цябе з хмурынкай у вачах.*
*Як дываны, лугі раскіне,*
*Падорыць небу сваю сінь*
*І рыбы на кручок накіне*
*На юшку царскую усім [1, 7].*

У гэтым сэнсе мэтазгодна заявіць пра коласаўскія традыцыі ў паэзіі У. Верамейчыка, у асэнсаванні вобраза Прыпяці ў прыватнасці. У Я. Коласа ("Дрыгва") рака – разумная працаўніца, дужая, спакойная, ураўнаважаная і лагодная, як і самі палешукі і беларусы наогул. Але гэта да той пары, пакуль над яе хваямі не пранясецца вецер. Над коласаўскай Прыпяццю тады зніжаюцца навальнічныя хмары, чуюцца раскаты грому, рака хмурыцца, злуецца, "сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі", робіцца страшнай. Неўтаймаваныя сілы разгневанай Прыпяці паказвае і У. Верамейчык:

*Вецер сена скубе на паромах-наўклюдах,*
*Перад бураю Прыпяць наморшчыла твар.*
*Каля Юравіч голасам, поўным прастуды,*
*Пачынаюць грамы агалошваць абшар.*
*На прасторах ракі разлятаецца рэха,*
*Падбіраюцца лёскаты грому сюды.*
*Калі ў дождж рызыкнеш Прыпяць ты пераехаць –*
*Поўны човен збярэш дажджавое вады [1, 5].*

Але, паказваючы Прыпяць гнеўнай і страшнай, Колас не забываецца і на яе чалавечнасць. Хвалюе сваёй нечаканай вобразна-эмацыянальнай трапнасцю і жыццёвай пераканальнасцю параўнанне Прыпяці з маці. Многія пісьменнікі параўноўвалі раку з маці, але толькі Колас сэрцам адчуў новы вобраз: рака "голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці". Ужо ў гэтым прыкладзе добра падкрэслены жаночы пачатак Прыпяці, незвычайна прыгожай, мяккай, ласкавай.

У Верамейчыка таксама Прыпяць ачалавечаная, персаніфіцыраваная.

Знітаванасць паэта з радзімай, з ракой маленства вылілася ў вобразы Прыпяці-дзяўчыны, Прыпяці-жанчыны:*"... А сонца гаспадарыць над усім,/ І Прыпяць усміхаецца дзяўчынай", "Непрыкметна Прыпяць спаць лягла / Спрацаванай стомленай жанчынай./ Каб яна спакойна спаць магла,/ З туманоў хтось коўдру ёй накінуў".*

Прыпяць у мастацкім асэнсаванні У. Верамейчыка – гарэзлівая і сур'ёзная, вясёлая і сумная, працавітая і святочная. Вада ў рацэ нашай гаючая, а сама Прыпяць – добры лекар ад усіх хвароб фізічных і пакут душэўных, таму ў яе паэт і просіць здароўя, чэрпае ў ёй натхненне і творчыя сілы:

*Прыплыві, падхапі і нясі мяне, Прыпяць,*
*Калі зноў я прыйду да тваіх берагоў,*
*Дай з далоняў гаючай вады тваёй выпіць,*
*І мне хопіць здароўя на сотні гадоў [1, 5].*

Верамейчыкава Прыпяць – істота, якая па-чалавечы перажывае, хвалюецца, жадае лірычнаму герою вершаў узаемаразумення з каханай, спадзяецца, што яшчэ не ўсё страчана: *"А мо яшчэ не ўсё прапала?/Не ўсё. Бо Прыпяці адчай/У нашых сэрцах захлынецца"* [4, 166].

Выступаючы ў абарону адданасці роднай зямлі, вернасці ёй, паэт вышэй за ўсё ставіць гэтыя якасці і ў адносінах да любімай ракі. Час ідзе, мяняюцца людзі і ўлады, а Прыпяць не здраджвае Беларусі, верная свайму рэчышчу і справам: *"Цвітуць пялёсткі даўняе тугі,/А Прыпяць не выходзіць з берагоў"* [1, 23].

Якую б тэму ні закрануў У. Верамейчык, якую б ні вырашаў праблему, скразным вобразам з'яўляецца вобраз Прыпяці. Праблемна-тэматычная шырыня паэзіі У. Верамейчыка, яе агульначалавечае значэнне грунтуюцца на рэгіянальных каранях. Прыпяць – рака Палесся –лёсавызначальны ключ у раскрыцці любой тэмы вершаў паэта. У інтымнай лірыцы Прыпяць або атаясамліваецца з каханай, або наогул для лірычнага героя стаіць на першым месцы: *"Любімая, спіце .../Яшчэ не прачнулася Прыпяць .../... Сасніце што-небудзь./Напрыклад, над Прыпяццю сад"* .

У. Верамейчык у сваіх вершах зборніка "Ліхаўня" (1997) імкнецца даць рэалістычны аналіз рэчаіснасці, удумваецца, аналізуе прычыны чарнобыльскай аварыі, асуджае нядбайныя адносіны да чалавека і прыроды, бюракратызм, меліярацыю.



Наогул, усе патаемныя жаданні паэта так ці інакш звязваліся з Прыпяццю: *"Апошнюю рэчку хачу перапплыць/Не Лету, а Прыпяць", "... Няхай мяне хаця вартаўніком/У Мазыры ля Прыпяці прызначаць".*

Паэт абагаўляе родную рачулку, складае ёй гімн, прысвячае ўсё сваё жыццё служэнню Прыпяці. Толькі шчыра закаханы патрыёт, сапраўдны сын сваёй зямлі, паэт-паляшук мог напісаць шчырыя радкі-прысяганне, якія сталі яго жыццёвым крэда і візітнай карткай усёй паэзіі:

*Клянуся Прыпяццю – і Случчу, і Славечнай,*
*І Пцічу, што з'ядналіся ў ёй,*
*Клянуся Прыпяццю – маёй калыскай вечнай*
*І радасцю нязмеранай маёй.*

*Клянуся Прыпяццю – як іменем любімай,*
*Што я шапчу з лірычнага чаўна.*
*Клянуся Прыпяццю ...*
*А Прыпяць, як Радзіма,*
*Адна – у свеце. І ў мяне – адна.*

**А. ВАНЬКОВІЧ**

г. Мазыр

# ПОСТАЦІ НАШАЙ ГІСТОРЫІ




**20 верасня гэтага года споўніцца 100 гадоў ад дня нараджэння выдатнай беларускай паэткі на эміграцыі Наталлі Арсенневай. З нагоды юбілею ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" выпусціла кішэнны каляндарык (дызайн мастака Ігара Марачкіна) з вывай Наталлі Арсенневай і словамі з яе верша "...была ты, ёсць і будзеш, Беларусь!" Выкарыстаны невядомы фотаздымак віленскага перыяду жыцця паэткі з фондаў Беларускага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва, які нідзе дагэтуль не друкаваўся.**

**Тое ж ГА ТБМ адзначыла 120-я ўгодкі нараджэння таленавітага беларускага пісьменніка, выдатнага**




**грамадскага дзеяча Францішка Аляхновіча выпускам таксама кішэннага каляндарыка. Выкарыстаны графічны малюнак А. Медзыблоцкага "Ф. Аляхновіч" на фоне Салавецкага манастыра. Пазначаны гады жыцця (1883—1944) ды змешчана сімволіка ТБМ.**

**Запытвайце новыя выданні ТБМ у цэнтральнай сядзібе таварыства, што на вул. Румянцава, 13 у Мінску.**

**Ірына ЛЯКСЕЕВА**



**Генадзь Пашкоў**



## ПОЛЕ ЛЮБВІ

***

*Не багата адмерана жыць.*
*Ды кажу, паўтараю бясконца:*
*Мы прыйшлі на Зямлю,*
*каб любіць*
*і рассыпацца кроплямі сонца.*

***

*Я ішоў насустрач свайму дню,*
*але ты сустрэлася ў дарозе.*
*Думаў я, спакусу адганю.*
*Спрабаваў, ды толькі не ўдалося.*

*І стаю на росхрысце вятроў,*
*збіты спанталыку, ахмялелы.*
*Ледзь тваіх крануся валасоў –*
*патанаю у завеі белай.*

***

*Быў шлях акрэслена прамы*
*і жыць-тужыць была ахвота.*
*Ды саступілі раптам мы*
*са шляху ў зорнае балота.*

*І ўжо не хочацца на шлях,*
*дзе цвёрды грунт гарантаваны.*
*І кожны,*
*як падбіты птах,*
*не асэнсоўвае раны.*

***

*Што за свет нечаканы такі?!*
*Чаму рэзкая лёсу паходка?*
*Мы ў стыхійных патоках ракі.*
*Мы – сляпыя.*
*І ў нас адна лодка.*

*Толькі ў свеце зямным –*
*не адны.*
*Нас трымаюць нябачныя ніці.*
*Спавілі, павязалі яны,*
*каб не ведалі мы, як даплысці.*

*Тыя повязі не рассячы*
*у нязнанай,*
*трывожнай дарозе,*
*бо нікому яшчэ*
*уцячы*
*ад самога сябе не ўдалося.*

*Куды плысці?*
*Куды весляваць?*
*Дзе шукаць малітоўныя словы?*
*І як душы свае ратаваць*
*у стыхіі такой выпадковай?..*

***

*— Я не хачу цябе любіць... –*
*Пусціла дым замілавана. —*
*Я не магу, калі баліць*
*душа развержанаю ранай.*

*Я не магу цябе любіць:*
*любоўю змучана нямала.*

*— А як жа быць?*
*А як нам жыць,*
*калі душа ў снягах адтала,*
*і закруціла сіні вір,*
*і ўскаланула акалоткі,*
*і, перамельваючы жвір,*
*ідзе стыхійнаю паводкай?*

*Хоць позна перасеклі мы*
*жыцця зямныя пуцявіны,*
*але ж чаму глушыць грамы*
*у сэрцах зблізканых павінны?..*

***

*Плод вінаграднай лазы,*
*неба з'яднала што з глебай,*
*мы па глытку тры разы*
*вып'ем, а болей не трэба.*

*Разам з шампанскім*
*я вып'ю цябе,*
*падараваную сонцам.*
*Сэрца маё аб тваё, чуеш, б'е*
*звонам у небе бясконцым,*
*дзе усё расквечана*
*бурнай вясной,*
*зорамі Вечнасць іскрыцца.*
*Хіба мілей што мелодыі той*
*можа яшчэ нарадзіцца?..*

***

*На роўным полі,*
*як на зорным полі.*
*Калі глядзець хоць крышачку*
*з гары,*
*ля Раўнаполля*
*на шырокай волі*
*паводка расплываецца зары.*

*Любімая,*
*цалую твае вочы,*
*дзе ўсе сузор'і змесціліся ледзь.*
*Мне гэтак мала тумановай ночы*
*цябе спасцігнуць...*
*Хоць бы зразумець...*

*За ўсё, за ўсё,*
*што дорыш,*
*падарыла,*
*у далечы,*
*як зорамі імжыць,*
*я, птах світальны,*
*апякаю крылы,*
*ды не магу па-іншаму пражыць,*
*без тваіх рук,*
*без вуснаў,*
*без гарачай,*
*ля сэрца захмялелай,*
*цішыні.*
*...Не пазнаю,*
*што знойдзена,*
*што страчана?*
*Дзе ночы ясназорыя?*
*Дзе дні?..*

***

*У Варшаве дождж...*
*Па ўсёй Еўропе*
*нізкія, панылыя дажджы.*
*Дзе ты, мая мілая, далёкая?*
*Хоць бы слова з далечы скажы.*

*Не, не ўпадак сіл,*
*не безнадзейнасць,*
*не хандра начная,*
*не адчай, –*
*гэта сэрца-жаваранак дзеіць:*
*шлю пасланне, –*
*ты яго страчай,*
*хуткаю маланкай між аблокаў,*
*ракатлівым громам у начы.*
*... Спі, мая любімая, далёкая.*
*Буду сон твой сёння берагчы...*

***

*Гадзіну ірвуся цераз лясы,*
*праз рэкі, палі і балоты.*
*— Абанент не даступны... –*
*мабільнік басіў.*

*— Дзе ты?..*
*Дзе ты?..*
*А вось дзе ты...–*
*З глыбіняў зялёных*
*лясоў і балот,*
*з ягадніку расквітнелага:*
*— Я слухаю цябе... –*
*з электронных сот,*
*а далей – гудкі,*
*павалока белая*
*туманнага кужалю,*
*зорных шляхоў,*
*чаромхі ап'янелай.*
*... Шукаю твой голас,*
*мелодыю слоў*
*у далечы заружавелай.*

*— Ты чуеш?..*
*Люблю! – шлю пад зоркавы дах.*
*Каханая слоў тых не чуе.*
*Адно спадзяюся:*
*спагадлівы птах*
*пра ўсё ёй пасля праявячуе.*

***

*Месяц шчаслівага ўзлёту!*
*Млее, хмялее душа!*
*Потым?*
*А што будзе потым?..*
*Вып'ем, што ёсць, спярша!*

*Перадсвітальным пажарам,*
*Поле Любві, паруй.*
*Нас, неразумных, за чары,*
*Божа высокі, даруй!*

***

*Раніцою з прамяністай верай*
*да цябе пастукаюся ў дзверы.*
*Зазірну ў зялёнае прадонне.*
*Там душа адразу і патоне.*

*Дакрануся рук і мілай шчочкі.*
*Пацалую раз і два разочкі.*

*Вершы напішу я ў твой блакноцік.*
*Пачытай, пацешся, мілы коцік.*

## КРЫНІЦА

*Ты была першароднай крыніцай.*
*Ды, напэўна ж, ужо не яна.*
*Я прыпаў у дарозе напіцца.*
*Схамянуўся, не ўбачыўшы дна.*

*Столькі розных*
*з цябе папіла,*
*прагна,*
*пахатна,*
*як арда.*
*Прахадным называлі –*
*"мілай",*
*покуль звонкай была вада.*

*Адзарылася.*
*Ціха бруіцца*
*ля валуння*
*журботная ніць...*
*Страшна, боязна мне напіцца:*
*канчаткова б не замуціць...*

***

*Хуліганам абзавеш,*
*як зрыфмую штосьці.*
*Хай сабе свавольны верш –*
*не адымеш досціп.*

*Я зусім не хуліган.*
*Толькі так здаецца,*
*бо адзіны мой наган,*
*гэта – маё сэрца!*

***

*Ты на тым баку вясёлкі.*
*Я на гэтым.*
*Дажджу вострыя іголкі*
*гнуцца ветрам.*

*Без цябе стаміўся так!*
*У адчаі*
*пад вясёлкай,*
*быццам знак, –*
*лямант чаек.*

*Светлазззянне...*
*Прэч, туга!*
*Іду прама.*
*Каляровая дуга*
*наша брама!..*

***

*Усё добра*
*у нас,*
*усё чынна:*
*я не хлопец,*
*а ты не дзяўчына.*
*Памілуемся...*
*Памаўчым...*
*Ты закурыш,*
*пускаючы дым.*
*Я расслаблюся*
*у знямозе...*
*Добра нам*
*у адной дарозе...*

*Эх, дарога!*
*Дарога!*
*Дарога!*
*Я прашу цябе толькі*
*аб тым:*
*зберажы*
*ад пачварліва-злога*
*гэты час,*
*гэтых нас,*
*гэты ўздым.*

# ГУЛЬНЯ

Васіль ТКАЧОЎ



1

Амаль у адзін і той жа час з пункта "А" (Чарнігаў) у пункт "Б" (Гомель), і насустрач, выехалі два чалавекі: дацэнт факультэта славянскіх моў Чарнігаўскага універсітэта імя Т. Шаўчэнкі Васіль Будзёнаўскі і дацэнт кафедры беларускай літаратуры Гомельскага універсітэта імя Ф. Скарыны Віктар Ярась, абодва былі ў строгіх касцюмах, пры гальштуках і абодва з'яўляліся прызнанымі паэтамі, членамі творчых саюзаў сваіх незалежных з нядаўняга часу краін. Васіль Будзёнаўскі ехаў у госці да Віктара Ярася, а Віктар Ярась — да Васіля Будзёнаўскага. Славяне сябравалі. І даўно. Таму пра паездку адзін да аднаго нават не дамаўляліся, яны рабілі гэтак і раней, сабраліся... і паехалі. "Няхай Васілю будзе сюрпрыз!", "Няхай Віктару будзе сюрпрыз!" Колькі разоў так яны ўжо рабілі, і нічога — прамашак не было: заўсёды сустракаліся, як і мае быць, на належным узроўні. Поціск рук, абдымкі, а з моцных напояў не бралі ў рот ні кроплі. Плюньце таму ў вочы, калі кажуць, што паэты п'юць занадта, меры не ведаючы, як вярблюды перад спёкай — прызапас. Гэтыя не п'юць. Ні кроплі. Для многіх, мусіць, і сапраўды цікава — а навошта ж яны тады збіраюцца, ездзяць у госці адзін да аднаго? Што, ім больш няма чаго рабіць? А яны ездзяць, бо ім, відаць, нешта ж во цікава разам. І не лічаць сябе дзівакамі.

2

Васіль Будзёнаўскі білет на аўтобус купіў загадзя, бо ведаў: у суботу шмат гандляроў-торбачнікаў стараецца трапіць у Гомель, аўтобус жа, як вядома, не гумавы. Жадаючых паехаць да беларусаў на базар было зашмат і на гэты раз. Што вязуць браты-украінцы братам-беларусам? Вядома ж: сала, алей, марачнае і таннае віно, маргарын, сметанковае масла, а таксама — шкарпэткі, майкі, трусы... Усяго патроху. А выгада, мусіць жа, нейкая ёсць, калі не ўперціся з-за іх у той аўтобус такім вось сціплым і — не яго бяда! — вядомым людзям, як паэт і выкладчык Васіль Будзёнаўскі. У Гомелі, дарэчы, ёсць праспект Краўчука — дарога ад чыгуначнага (а побач і аўта) вакзала да цэнтральнага гарадскога рынку: некалі паабапал яе стаялі гандляры з Украіны і прапаноўвалі розны тавар. Перайменаваць праспект з выпадку змены прэзідэнтаў не паспелі — ужо калі быў абраны Кучма, то гандляваць там забаранілі, і сябры-суседзі абляпілі, дзе толькі можна, гарадскі рынак, а найбольш пранырлівыя ўцёрліся ў асяродак. Праспект жа Краўчука і сёння існуе — у памяці хоць, аднак усё ж...

Перш, чым заняць сваё законнае месца ў аўтобусе, Васіль Будзёнаўскі памеўся выручыць хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце, узяў у таго чатыры пляшкі віна. Тых пляшак паэт не бачыў, яны былі ў цэлафанавым пакеце, да таго ж яшчэ і ў газеціне, на якой ён паспеў угледзець сваё прозвішча, і здагадаўся, што гэта апошні нумар абласной "маладзёжкі", дзе на гэтым тыдні надрукавалі падборку ягоных вершаў. Хлапец у кепцы і з прарэхай у роце такія ж пакункі перадаў яшчэ двум чалавекам, і ўсім шчыра дзякаваў, а то, казаў, мытня не прапусціць, а гэта ягоны хлеб. Не віно, канечне ж, а чаўночны гандаль. Яму пайшлі насустрач. Васіль Будзёнаўскі не надта разбіраўся ва ўсім гэтым, а людзям дапамагаць любіў, хоць іншы раз яму гэта дорага каштавала. І заракаўся ж не рабіць больш такога, аднак забываўся на гэта чамусьці адразу, варта было звярнуцца да яго зноў каму-небудзь: "Вы, шаноўны, не змаглі б мне?.."

Неўзабаве аўтобус закалываўся на выбоінах, якіх з'явілася чамусьці многа ў апошні час на прывакзальнай плошчы, і пакіраваў па маршруце. Пасажыры памалу суцішыліся, і амаль усе яны былі заняты сваімі дробнымі справамі: адны снедалі, іншыя перакладалі з сумкі ў сумку, з пакета ў пакет розныя скруткі, пакецікі, пакункі... І так амаль усю дарогу, пакуль будуць ехаць да мытні, корпаліся, бы жукі. Адчувалася, што яны хвалююцца. І яшчэ тое, што амаль усе яны старыя знаёмыя. Паміж сабой.

Васіль Будзёнаўскі паспрабаваў заснуць — не атрымалася, галаву таўклі розныя думкі, ён адчуваў радасць ад блізкай сустрэчы з беларускім сябрам. Успамінаў і сваё жыццё. Нешта лагодзіла душу, нешта пакідала прыкры, прагорклы напамінак. Але ж жыццё ішло, ідзе і будзе, трэба спадзявацца на тое, ісці. Выдаў адзінаццаць кніжак вершаў, выгадаваў сына, а цяпер песціць ўнука. Выкладае ва універсітэце. Праўда, за кандыдацкую нават не браўся. А навошта? Што новага, карыснага, патрэбнага людзям, разважаў, ён скажа? Атрымоўвалася — нічога. Тады навошта псаваць і свой час, і час людзей? Лепш напісаць кніжку вершаў. Гэта ў яго выходзіла добра, а трэба рабіць заўсёды тое, што атрымоўваецца. Да таго ж і выкладчыкам ён быў ад Бога — на яго лекцыях студэнты адсутнічалі толькі па нейкай важнай прычыне. Мала хто ведаў, што Васіль Будзёнаўскі пераклаў на сваю родную мову Біблію. Цалкам. Пакуль ён не надрукуе яе, мала хто, мусіць, і паверыць. А ён зрабіў такую працу! Уяўляў, як пахваліцца Віктару Ярасю, і той вохне ад здзіўлення: няўжо?! Так, братка-беларус, так.

Была і яшчэ адна мэта ў паэта і навукоўца — набыць у Гомелі мінеральных угнаенняў. Хоць кіло з дзесяць. На дачныя сотні сыпануць трэба, а то ж каравяк дорага каштуе і купіць сёння з ягонымі грашыма не па кішэні. Перад самой мытняй Васіль Будзёнаўскі папытаў у таго хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце:

— Кажуць, там ёсць угнаенні. Комплексныя. На базары ў пакетах. Не сустракаў, часова?

Адказ быў няпэўны:

— Бачыў, везлі. А дзе бралі... мабыць жа, там.

Хлапец у кепцы і з прарэхай у роце раптам затрымаў позірк на твары Васіля Будзёнаўскага, сабраў на пераноссі ў пучок маршчыны, і нясмела, але гучна папытаў:

— Пачакайце, вы не паэт?

— Паэт.

— А я вас адразу успомніў, толькі сумняваўся... Можна ж было і памыліцца. Дай, думаю, лепш прыгледжуся. І не памыліўся! Вы да нас прыходзілі ў інтэрнат... вершыкі чыталі.

— Раней багата хадзілі. І ў інтэрнаты, і ў школы, і у ПТВ, у вёскі ездзілі. Было!

— А цяпер чаму ж?

— Каму мы там трэба? Цяпер у нас заахвочваецца той, хто размаўляе не на роднай мове, а на якой-небудзь замежнай — пераважна, на англійскай... Во тых сёння прывячаюць хлебам-соллю. І парсючка засмаляць.

Да хлапца ў кепцы і з прарэхай у роце не дайшло пра замежныя мовы, ён, разважаючы пра нешта сваё, яшчэ раз паказаў суседу па салоне ў аўтобусе шчыліну ў роце, і на пэўны час замоўк. Каб не маўчаць, Васіль Будзёнаўскі кіўнуў на пакет, што мясціўся каля ягоных ног, і пацікавіўся:

— Дык што, і праўда, з гэтага жывеш?

Той адказаў амаль адразу:

— Шурой празвалі. Ведаеце такога спевака?

— Не, — пакруціў галавой Васіль Будзёнаўскі. — Не чуў.

— Бяззубы.

— А-а!

— То і ў мяне ж зуба няма. Ды спераду. Як і ў яго. А дзе на зуб грошы возьмеш? Добра, каб хоць адзін... А то ж поўны рот гнілых... Тых не бачна... Во і цягаюся з гэтымі пляшкамі, каб грошай сабраць... Калі служыць на Новую Зямлю пасылалі, то былі ўсе зубы... Не пойдзеш жа ў ваенкамат. Каб стрэбаваць. Там пашлюць. Яшчэ і ў спіну плюнуць.

— А ты сходзі, сходзі, — параіў Васіль Будзёнаўскі.

— Жартуеце? — зноў паказаў яму бяззубы рот хлапец.

— А відаць, і так...

— Засмяюць.

— Могуць. І праўда — могуць.

Стоп: мытня. Пасажыры аўтобуса суцішыліся, і неўзабаве прапаршчык-пагранічнік, загадаў падрыхтаваць пашпарты для праверкі. Калі ласка. Працэдура знаёмая. Ён моўчкі разглядваў пашпарты, вяртаў іх уладальнікам, а загаварыў толькі, калі ў ягоных руках аказаўся пашпарт, які падаў яму Васіль Будзёнаўскі. Пагранічнік зверыў картку па пашпарце, зноў паглядзеў на яго, загадаў:

— Выходзьце. У вас чужы пашпарт.

— Як — чужы?! — не паверыў спярша Васіль Будзёнаўскі, а калі той апынуўся ў ягоных руках, усё зразумеў: гэта быў пашпарт жонкі. У адно імгненне ён уявіў, як вяртаецца назад, пашкадаваў, што не сустрэнецца з Віктарам Ярасем, і не менш — што не прывязе комплексных угнаенняў. Кранты ўраджаю.

Тым не менш, настрой у Васіля Будзёнаўскага — ён і сам здзівіўся гэтаму — быў на належным узроўні, і ён, выйшаўшы з аўтобуса і не зважаючы на спачуванні пасажыраў, што свідравалі яго вачмі, трымаў жончын пашпарт на выцягнутай руцэ, не адрываў ад карткі позіркі і артыстычна прызнаваўся жонцы ў каханні:

— Бачыш, маё сэрцайка, як моцна я цябе кахаю! То што я табе раней гаварыў? Вось цяпер вер. Нават пашпарт твой узяў замест свайго... А чаму? Што, табе і гэта не цікава? Выбачай. Бо картка ў тваім пашпарце прыклеена. А я без цябе ні кроку! Хоць з самой, хоць з карткай, каханне маё! Да сустрэчы. І даруй, што вяртаюся без азотных, калійных і фосфарных угнаенняў.

3

Віктар Ярась займаў два сядзенні ў шыкоўным "Ікарусе": на першым сядзеў сам, а на тое, што было бліжэй да акна, паставіў сумку. У сумцы была новая кніжка вершаў, выдадзеная на сродкі спонсараў, і гасцінцы ўнуку Васіля Будзёнаўскага Багданчыку, якога ён бачыў усяго адзін раз, але які яму нечым дужа падабаўся: кемлівы, жывенькі хлопчык. Мо таму яшчэ так хінуўся Віктар Ярась да Васілёвага ўнука, што ён і сам марыў пра такое шчасце, але гэтым пакуль пахваліцца не мог. У чым, пэўна ж, вінаваты і сам. Хоць шмат што залежала і ад абставін... Але ж абставіны ствараў і ён сам. Як атрымалася, адным словам, так і атрымалася. Прычына адна і банальная, чаму ў яго пакуль няма ўнучыка, пра якога марыў, з якім спадзяваўся размаўляць толькі на беларускай мове — як Васіль з Багданчыкам на украінскай: позна ажаніўся. Вучоба ва універсітэце ў Мінску, потым, калі іх, групу шчырых студэнтаў, адлічылі быццам бы за злоснае праяўленне нацыяналізму (запатрабавалі, каб усе лекцыі чыталіся на роднай мове), з цяжкасцямі і не без дапамогі Максіма Танка ўладкаваўся ў Гомельскі універсітэт, потым працаваў у раённай газеце, на тэлебачанні, пакуль, нарэшце, не знайшоў сябе ва універсітэце. Пачаў выкладаць. Абараніўся. Пісаў вершы. Паэтычны набытак не багаты, хоць друкуецца шмат: кніжкі выходзяць рэдка, вельмі нават, бо, разважае Віктар — і справядліва! — каб працаваў дзе-небудзь бліжэй да выдавецтваў, а лепш у самім ім, то ўсё было б лацвей. А та-а-ак! Пшык справа. У апошні час ён нават не заходзіць у кнігарні, хоць раней любіў гэты занятак: пагартаць кніжкі, якія яшчэ пахнуць свежай фарбай, нешта набыць для хатняй бібліятэкі. А цяпер... толькі сабе нашкодзіць — сапсаваць настрой, завітаўшы ў кнігарню, і можна. У выдавецтваў у пашане адны і тыя ж паэты — і ў першую чаргу, абскакаўшы нават класікаў, самі выдаўцы. Завалілі кнігарні сваімі тамамі. Ні сумлення, ні... Што гэта яшчэ можа адсутнічаць у такіх людзей? А трасца яго ведае! Загрудкі б узяць ды трасянуць, як гэта ў вёсках мужчыны разбіраюцца, калі знойдзецца які разумнік і абдурыць іншага. Дык не возьмеш. І характар не такі, і рукі пэцкаць не хочацца. Хоць, калі так пойдзе далей, можа быць і нешта больш страшнае... Знойдуцца паэты, якія ўмеюць пісаць не толькі вершы... Знойдуцца... Усё гэта прарастае — хоць і кволым пакуль парасткам, але прарастае — адтуль, з няблізкай даўніны, калі людзі, не зважаючы на кроў, змагаліся за кавалак хлеба. Бо хацелі есці.

А калі не хацелі?

Іншы раз і Віктару Ярасю хацелася папярэдзіць такіх літаратурных нахабнікаў: бойцеся, сцеражыцеся! А потым, калі пачынала забывацца тая кніжная крама, заваленая тамамі саміх выдаўцоў, супакойваўся, памалу астываў... і заракаўся больш не рыфмаваць, але ненадоўга: не з тых людзей ён, каб не пісаць. Каб не пісаць?.. Някляеў усё ж паэт ад Бога — выдаў нядаўна: *у нас няма прычын, каб не піць...* А ў яго, у Віктара Ярася, была прычына, каб не пісаць... Толькі не пісаць ён ужо не мог. Нават і цяпер, седзячы ў аўтобусе, падбірае рыфму, мармыча нешта сабе пад нос, а на паперу запісвае: "На дне Дняпра — якіх дуброў дубы, якіх вякоў, што лісцем адшумелі? На бераг іх выцягваюць, нібы часоў знямелых і душу, і цела..."

Ад чаго ўжо адбрыкваецца дык адбрыкваецца Віктар Ярась — гэта ад сустрэч з чытачамі. Па-першае, тыя не самі яго клічуць, а звычайна бібліятэкі, і на сустрэчах збіраюцца "аматары" літаратуры, якія нават і не чулі раней яго прозвішча, не кажучы ўжо, што чыталі нешта. Сядзяць тады, у носе калупаюцца... Брыдка! Ну, а па-другое, цяпер час не той, каб бясплатна ездзіць, лічыць Віктар Ярась. Хопіць, мінуў час бясплатных выступаў. Яму нават не заўсёды ганарар высылаюць за публікацыі, а цяпер жа, па горадзе праехаць... грошы плаціць трэба. Бохан хлеба можна купіць. Ёсць і трэцяя прычына, па якой вядомы паэт цураецца сустрэч. Хто звычайна кліча? Бібліятэкары. А калі трэба было сабраць — прыдумаў жа нейкі д'ябал і такое! — тыраж на кніжку, тыя заказалі ўсяго пяць асобнікаў ягонага зборніка вершаў на вобласць. Вядома ж, зборнік не трапіў у выдавецкі план. Цяпер поўнае табу на выступы. Нават калі клічуць сябры-калегі. Ці, да прыкладу, акцёр драматычнага тэатра і яго даўні знаёмы Уладзіслаў Драбавікоў. Гэты чалавек наогул цікавы. Паэт слабы, а са сцэны вершы быццам бы гучаць, людзі прымаюць. Звычайна ён сваю сустрэчу з чытачамі пачынае так: "Я, сябры, паэт пад даты..." Тыя глядзяць на яго павесялелымі вачамі: быццам і праўда кульнуў горкай ці чаго там, прыкметна. Малайчына, што прызнаецца. Шчыры чалавек. Свой. А ён тут жа іх супакойвае: "Пішу вершы пад даты... Да Новага года... Да Васьмага сакавіка... Да Першамая... Да дня Перамогі..." Гэта выклікае ажыўленне ў зале. Кантакт са слухачамі знойдзены.

(Заканчэнне на стар. 15.)

# КУЛЬТУРА ЗБЛІЖАЕ

***Нядаўна ў нашай краіне гасцяваў Маладзёжны духавы аркестр з Верхняга Рэйна (Германія). Карэспандэнт "ЛіМа" пагутарыў з арганізатарамі гэтага праекта — яго каардынатарам з нямецкага боку, менеджэрам аркестра Яхімам Гутшэ, загадчыкам аддзела замежных сувязей БДУ культуры Аляксеем Пазняковым, выкладчыкам кафедры народна-інструментальнай творчасці, загадчыкам музея гармонікаў БДУ культуры Міхаілам Слізкім. Яны расказалі пра аркестр, яго творчыя планы, пазнаёмілі з праграмай гацявання калектыву ў Беларусі.***

Аркестр складаецца з 50 маладых музыкантаў ва ўзросце ад 13 да 21 года з розных гарадоў і вёсак Верхняга Рэйна. Яны іграюць у невялікіх мясцовых аркестрах і аб'ядналіся, каб атрымаць магчымасць нарэшце папрацаваць з прафесійным дырыжорам, выконваць творы класічнага рэпертуару, што амаль не прадстаўлены ў самадзейных аркестрах, — словам, прайсці добрую школу выканальніцкага майстэрства. Калектыў выязджае за мяжу кожныя два гады. Былі ў Партугаліі, у Швецыі, а цяпер вось наведалі Беларусь. Праект гэтага творчага візіту ажыццёўлены супольна з Маладзёжным эстрадна-сімфанічным аркестрам БДУ культуры пад кіраўніцтвам дырыжора Віктара Валатковіча.

За час візіту было арганізавана тры канцэрты. Першы адбыўся 1 чэрвеня, у Міжнародны дзень абароны дзяцей, у Клубе імя Дзяржынскага. На ім прысутнічалі дзеці SOS-вёскі ў Бараўлянах і студэнты БДУ культуры (яны запрасілі сваіх знаёмых з Мінскага каледжа мастацтваў і музычнага вучылішча імя М. Глінкі). Тады адбылося пробнае сумеснае выступленне нямецкіх і беларускіх музыкантаў. Па сутнасці, гэта была генеральная рэпетыцыя перад наступ-



нымі выступленнямі калектыву — у Мінскім ваенным суворАўскім вучылішчы і ў Маладзёжным тэатры эстрады. Курсантам-суворАўцам вельмі спадабаўся канцэрт,які яны ўспрынялі з уздымам і неадназова выклікалі выканаўцаў на "біс". Гэта было найлепшае з выступленняў нямецкіх гасцей у Мінску. Сумесны канцэрт двух аркестраў — беларускага і нямецкага — адбыўся ў Маладзёжным тэатры эстрады БДУ культуры ў Мінску. Прайшоў ён з аншлагам. Прысутных студэнтаў і выкладчыкаў БДУ культуры зацікавіла праграма. Нямецкія музыканты выконвалі папулярныя сучасныя мелодыі кампазітараў Швецыі, Англіі іншых краін. Беларускія — іспанскую і нашу нацыянальную музыку. А дырыжорам гэтага незвычайнага канцэрта быў госць з Вялікабрытаніі Джулія Гібанс. Між іншым, эстраднаму калектыву з Германіі надзвычай спадабалася выступленне гурта "Валачобнікі" БДУ культуры.

Сярод мноства задач нямецкага калектыву — арганізацыя паездкі ў Германію беларускіх музыкантаў, якія змогуць больш даведацца пра тамтэйшае жыццё, параўнаць уклад быцця. Да таго ж, немцы мяркуюць запрасіць да сябе такі ж аркестр са Швейцарыі, а самі збіраюцца ў Францыю. Трэба яшчэ больш умацоўваць сяброўскія сувязі паміж народамі, творчымі калектывамі. Вядома ж, каб добра ведаць жыццё ў розных краінах, неабходна вучыцца разумець, прымаць, з павагай ставіцца і да іншых культур.

Знаходзячыся ў нас, нямецкія госці наведалі выставу шэдэўраў Траццякоўскай галерэі ў Нацыянальным мастацкім музеі, цырк, Нацыянальны акадэмічны тэатр оперы. Ім спадабаўся горад Мінск: на іх думку, прыгожы, чысты і ўтульны. Іх пасялілі ў інтэрнаце універсітэта культуры, што яшчэ болей зблізіла музыкаў з Германіі і нашых студэнтаў. Як сказаў каардынатар праекта Яхім Гутшэ: "Культура — тая галіна, якая збліжае ўсіх людзей незалежна ад іх нацыянальнасці, месца жыхарства і роду заняткаў".

Запісала Святлана ЯВАР

*НА ЗДЫМКУ: сумеснае выступленне нямецкага і беларускага аркестраў у Маладзёжным тэатры эстрады. Дырыжор Д. ГІБАНС.*



# МАГНІТ САСНОЎСКАГА

### З жыцця аркестра

***У сёлетнім сезоне, пра што мы паведамлялі чытачам, Сімфанічны аркестр Брэсцкага тэатра драмы і музыкі адзначыў сваё 10-годдзе. З гэтай нагоды ў тэатры адбыўся святочны канцэрты, падчас якога прайшоў сапраўдны парад дырыжораў: за пульт аркестра-юбіляра станавіліся Аляксандр Куўшыннікаў, Мікалай Макарэвіч, Вячаслаў Чарнуха, Уладзімір Рыжкоў, Аляксандр Антановіч. А "камандаваў парадам" яго ініцыятар, мастацкі кіраўнік і галоўны дырыжор аркестра Брэсцкага тэатра Аляксандр Сасноўскі. Ужо на працягу***



***пяці гадоў ён, знаны мінскі маэстра (працуе ў беларускім дзяржаўным музычным тэатры, выкладае ў Акадэміі музыкі), кожны панядзелак, калі ў музычным тэатры выхадны, мкне чыгункай "на захад"... Пра тое, на якім творчым узроўні працуе цяпер брэсцкі аркестр, "ЛіМ" з прыемнасцю пісаў пасля таго, як у маі 2000 г. дзякуючы А. Сасноўскаму гэты калектыў выступіў перад сталічнай публікай у першым парадзе сімфанічных дырыжораў. А тое, якую атмасферу стварыў маэстра ў асяроддзі тамтэйшых музыкантаў, адчуваецца ў захопленых радках допісу, які мы атрымалі з Брэста.***

Пішу з нагоды вялікай радасці. Учора мы адсвяткавалі юбілей нашага аркестра. Толькі дзесяць гадоў ці ўжо дзесяць гадоў? Праляцелі гадкі хутка, адным узмахам крыла. І недарэмна час пражыты, недарэмна. Гляджу на аркестр, і сэрца млее ад салодкага ўсведамлення: тут і мая маленечкая долечка ўдзелу.

А пачыналася з таго, што аркестр іграў фантастычную бязглуздзіцу, што ні сэрцу, ні розуму. Гэтак і гралі. Ні розумам ні сэрцам. Рэпетыцыі нагадвалі ўрокі ў музычнай школе:

— Тут цішэй, там гучней. І яшчэ раз...

Авохці мне! Цяжка. Нейкая зацкаванасць, злоснасць на рэпетыцыях. Адкрытыя сваркі — сваркі між аркестрантаў, між дырыжорам і канцэртмайстрам.

— Сыграйце шэсць тактаў! Вы! Так, вы, Іваноў! Сыграйце.

— Калі ласка.

І — няўцямныя вочы. Навошта граць шэсць тактаў? Вучым гэтак, ці што?

На канцэрце — актывізацыя ўзаемных напружаных стасункаў. Адзін цягне ў свой бок, другі — у іншы... Думаць, слухаць калі будзем?

Рэзкі дырыжорскі ўзмах — і ўспалоханая гурма аркестрантаў бубніць нотны тэкст. Гнятліва. Ну, вось і апладысменты. Дзякуй Богу! Канцэрт скончаны. Саліст на канцэрт не з'явіўся? Паніка змешваецца з пакеплiваннем за спінай дырыжора.

Год 1995. Аркестр глуха "бурчыць". Прайшла навіна: нас перадаюць пад крыло Брэсцкага драмтэатра. Ёсць перавагі, і першая — сцэна. (Два ж гады аркестр жыў без даху, без дома. Рэпеціравалі ў музычным каледжы; не знайшлося для нас ні пакоя, ні ўласнага кутка ва ўпраўленні культуры, якому належыць аркестр). Іншыя прывілеі — арганізацыя канцэртаў і наогул існаванне ў творчай арганізацыі, дзе зразумеюць.

Нейкая варожасць з боку акцёраў тэатра: "Будзем спяваць ды скакаць пад сімфанічны аркестр?" Музыканты ж іранізуюць наконт аркестравай ямы, дзе змяшчаецца толькі 15-18 чалавек.

Новы дырыжор. Юны, цененькі, далікатны. Добры, здольны хлапчук. Аркестранты насцярожыліся. Чакаюць правалаў? Чакаюць адкрыццяў? Чаго чакаюць?

Праграма робіцца зразумелай, уцямнай, музыка больш даходлівая, добра ўспрымаецца слухачамі. Нас заўважылі: Адэскі тэатр аперэты, першы поспех. На сцэне поруч з аркестрам Наташа Жэбіт. Далікатная, дасведчаная, умее захапіць залу, распавесці, патлумачыць. Сапраўдная вядучая. Першыя тэматычныя канцэрты для дзяцей "Я помню вальса звук прелестный", "Казка ў музыцы". Праграмы, прызначаныя для дзяцей з бацькамі, — "Сямейныя канцэрты": у нядзелю раніцай за руку з бабуляй ці з бацькам прыходзьце да нас на сустрэчу з вялікай музыкай.

Тэатр робіць спробу (першую і апошнюю) аб'яднаць свае творчыя намаганні з аркестрам: "Шчаўкунчык". На сцэне навучэнцы харэаграфічнай школы, юныя акцёры студыі "Раёк", артысты тэатра, а ўглыбіні сцэны... сімфанічны аркестр. Ідэя і наватарскае ўвасабленне дырыжора А. Шакуры і рэжысёра спектакля Ц. Ільеўскага. 18 спектакляў у "ледзяной", неацепленай зале. Глядач апрануты паводле ўсіх правілаў зімы. Каляды. А на сцэне дзеткі ў балетных пачках, ссінелыя, змерзлыя, танцуюць і ствараюць дзяцінства каляднай казкі.

Аркестр чуйна чакае апладысментаў, і абавязкова які-небудзь вар'ят у N-ым радзе выгукне "брава!" Тым і шчаслівыя.

Абрастаем праграмамі. Цяжка і з вялікім супраціўленнем (за ноты трэба плаціць, і нямала).

З новага сезона ўзнікае дырыжор з Мінска. Больш валявы, больш дарослы. Замільгацела: "Людвіг ван Бетховен". Зноў цяжка ідуць рэпетыцыі. Бетховен да нас яўна не спяшаецца. Усё топчацца ля парога.

— Ну, заходзь жа, родны, уваходзь...

Ды, на жаль! Няма кантакту... І збянтэжаны дырыгент пакідае ды-

# СЦЯЖЫНКА КРЫНІЦЫ



***Гукі ліліся праз маю душу, запаўнялі хвалямі музычнай гармоніі ўсё навокал і мкнулі далей шырокай паўнаводнай ракой да мора сусветнага хараства. І ўсе яны спачатку дрыготкімі кропелькамі нараджаліся з-пад энергічных і далікатных дзявочых пальчыкаў: у зале лідскай музычнай школы сольны канцэрт давала Людміла Юрчук, 15-гадовая абаяльная прыгажуня. Першае аддзяленне Люда прысвяціла выкананню музычнай класікі на акардэоне, другое — на маю думку, найбольш цікавае — сваім уласным кампазітарскім дасягненням для фартэпіяна.***



рыжорскі пульт. Жахлівы, нетаварыскі, правінцыйны аркестр... Аказалася сустрэча дарэмнай: "и ты не согрет, и мы не разбужены"...

Аднойчы ў тэатральным бары бачу новы твар.

— Хто гэта?

— Сасноўскі з музкамедыі.

— Дырыжор?

— Так...

Адчуваю, гэта — шанц. Знаёмімся. Зачароўваюся. Чалавек гаворыць пра музыку лёгка, упэўнена. Веданне рэпертуару і опернага, і аперэтачнага, і камернага. Расказвае пра сябе — гэта значыць, пра музыку. Назіральны, саркастычны, трапны ў ацэнках, упэўнены ў сабе. Зачароўвае ўсё болей. Унутрана, слухаючы яго, малюся, каб ён быў з намі. Ну, хаця б адну праграму ну, хаця б... Праз год удаецца ўгаварыць дырэкцыю, пераканаць у неабходнасці зрабіць канцэрт разам з ім, Сасноўскім.

Я кепска памятаю першую рэпетыцыю, але тая абаяльнасць, якою была ўражаная, распаўсюдзілася і на аркестр. Магніт Сасноўскага спрацаваў. Бязлітасны і суровы, тонкі і ўдумлівы, паглыблены ў існасць рэчаў, злосны і дзёрзкі, пяшчотны і трапяткі... Усё! Здзейснілася!

Ён узяў у рукі аркестр і павёў яго ў свет музыкі, свет, па якім гэтак журыліся душы музыкантаў, што граюць не першы год у гэтым аркестры.

— Хто сёння рэпецiруе?

— Сасноўскі.

— Вось і цудоўна!

Аб'яднанне проціглеглых сіл пайшло. Аркестр пачаў зрастацца ў адно цэласнае, у адзіны арганізм. Агульнае дыханне, агульны рух. "Салісты" атрымалі сваё, "статысты" былі выцягнутыя за вушы з балота.

Перад канцэртам заўжды нервовы, заведзены. За пультам сабраны, актыўны. Усё і ўсіх чуе, усё трымае ў сваіх руках. Аркестрант настроены на адну хвалю з дырыжорам. Пасля канцэрта ці задавальненне, ці сорам за памылкі ды натуральнае памкненне дацягнуцца, дарасці да нармальнага ўзроўню.

Методыка рэпетыцый грунтуецца не на засваенні "тэхнічных" мясцін партытуры, а на законах мастацтва: праз матэрыял тэхнічны, будзь ласкавы, перадай музыку, яе вялікасць. На рэпетыцыях удых напачатку — і выдых пры канцы. Ніякай штучнай "дрэсуры". Няма калі сварыцца, няма калі базарыць, няма калі... Праца, праца, праца. І над усім гэтым Сасноўскі, і ўсярэдзіне гэтага стану Сасноўскі. Музыка ў яго ў руках.

І вось — Чайкоўскі пераступіў парог аркестра, і заняў першае месца ў першым радзе, ну, а потым Бернстайн, Гершвін, Берліёз, Равель, Барадзін, Мусаргскі, Рахманінаў, Моцарт і г. д., і г. д.

— Хто сёння рэпецiруе?

— Сасноўскі.

— Вось і цудоўна.

Сасноўскі заняў у сэрцах і думках маіх дарагіх калег усе рады і не пакінуў ніводнага вольнага месца. Аншлаг! Сёння ў нас аншлаг. Сёння ў нас Сасноўскі.

Нэлі НАВУМАВА,
інспектар Сімфанічнага аркестра
Брэсцкага тэатра драмы і музыкі

ВІНШУЕМ!

# САМЫ «МІРНЫ» МЕДАЛЬ



Барысу Міхайлавічу ПЕНЧУКУ сёлета споўнілася 85. Багатая біяграфія шаноўнага маэстра, пра якога неаднойчы распавядалася на старонках "ЛіМа". Згадайма, што народны артыст Беларусі прафесар Б.Пянчук ваяваў і быў цяжка паранены, удзельнічаў у парадзе Перамогі на Краснай плошчы ў Маскве і шмат гадоў узначальваў ваенна-аркестравую службу Беларускай ваеннай акругі. Ён арганізоўваў святы духавой музыкі ў нашай сталіцы і "камандаваў парадам" зводных духавых аркестраў — як галоўны дырыжор...

Ён мае нямала рэгалій і ўзнагарод, у тым ліку вайсковых. Да іх нядаўна дадалася яшчэ адна: падпісаны Указ Прэзідэнта Беларусі аб узнагароджанні Барыса Пенчука медалём Францыска Скарыны.

С.Б.

МЕРКАВАННЕ

# У ЦЫРКУ МУЗЫКА ГУЧАЛА

***Цырк любяць і дарослыя, і дзеці. Юным гледачам падабаецца яго казачнасць, фантастычнасць, маляўнічасць. Па-рознаму ўспрымаюць цыркавое мастацтва бацькі, бабулі, дзядулі. Але ж усе яны добра рэагуюць на высокі прафесіяналізм гімнастаў, жанглёраў, дрэсіроўшчыкаў... І калі ў Беларускім дзяржаўным цырку ішло прадстаўленне "Краіна ілюзій, краіна жывёл", публіка замілавана глядзела нумары з удзелам ласкавых сабачак, лам. Асаблівa ўражваў танец ламы з дрэсіроўшчыцай Аксанай Выгарніцкай пад мілагучную прыгожую мелодыю. Гэта была фанаграма высокай якасці, яна гучала чыста, выразна. Іншыя цыркавыя нумары выконваліся ў суправаджэнні запісаных мелодый ці жывога аркестравага выканання. Але ж, на жаль, немагчыма было нічога зразумець: замест музыкі — надакучлівае сіпенне, шум, тлум...***



— У аркестры, якім я кірую, калісьці працавалі выдатныя знакамітыя беларускія музычныя дзеячы: Барыс Райскі, Міхал Фінберг, — расказвае галоўны дырыжор мінскага цыркавога аркестра Вячаслаў Сярдзюк. — Музычныя інструменты наш калектыў атрымаў трыццаць гадоў таму ад Маскоўскага цырка на Цвятным бульвары. За такі тэрмін, вядома ж, метал стаміўся, але што мы можам зрабіць, калі вырашэнне праблемы набыцця новага камплекту духавых упіраецца ў грошы. Ад адных артыстаў-гастралёраў атрымліваем ноты музычнага суправаджэння іх нумароў, ад другіх — фанаграмы, якія нярэдка бываюць нізкай якасці. Да таго ж, у нашым цырку з шасці калонак гукаўзмацняльніка працуюць толькі тры. Сама ж гукавая апаратура ў нас ужо трыццаць гадоў.

Не дзіўна, што якасць гучання пакідае жадаць лепшага. А для яе паляпшэння, зразумела, патрэбны грошы. Наогул, галоўны дырыжор аркестра лічыць, што за музычнае суправаджэнне цыркавога прадстаўлення мусіць адказваць толькі ён, у тым ліку за фанаграмы, якасць якіх павінна забяспечвацца тымі, хто іх прадстаўляе.

Мастацкі кіраўнік Белдзяржцырка акадэмік Нацыянальнай акадэміі цыркавога мастацтва Таццяна Бандарчук лічыць, што праблема не толькі ў старых інструментах і апаратуры, але і ў людзях, адказных за гэта. У Мінску ж адзіны ў СНД цыркавы аркестр, у складзе якога больш як дваццаць музыкантаў, у іншых краінах — менш. Што датычыць гукарэжысёра, дык ён павінен прыходзіць на працу раней і рыхтаваць залу да прадстаўлення.

Таццяна Мікалаеўна запрасіла мяне на новую праграму. Ізноў цырк быў цалкам запоўнены. А на арэне чаго толькі ні было: і розныя змеі з "Усходняй фантазіі" дрэсіроўшчыкаў Кірашовых, і гадаванцы Наталлі Аляксеевай ды Дзмітрыя Кузняцова — пантэра і леапард, і мядзведзь-канатаходзец, выпеставаны Іванам Ротарам, і шмат іншага. Прадстаўленне настолькі захапляла, што ўвесь час гучалі ўдзячныя апладысменты. Але як ні стараліся аркестранты, іх выкананне, як і фанаграмы, часам гучалі надта шумна, з грукатам. А голасу вядучага праграмы проста не было чуваць з-за кепскага мікрафона. Хіба толькі фанаграма уверцюры Бетховена "Карыялан", якая суправаджала выступленне гімнастаў, прагучала на высокім узроўні. Значыць, можна дамагчыся належнай якасці гуку? Дык трэба ж пастарацца!

Вера КРОЗ

Нельга не адчуць у творчасці гэтай таленавітай дзяўчыны яркую індывідуальнасць. Яе п'есы я ўспрыняла як своеасаблівую мадэль Сусвету, з амаль датыкальнымі вобразамі і глыбокімі пачуццямі. У іх знайшлося месца для багатых праяў прыроды: светлай "Вясны" і бадзёрай "Ручаінкі", энергічнага, нават дзёрзкага "Летняга дажджу" і задумліва-празрыстай "Цішыні", неадназначнай усмешкі праз слёзы — "Восені" і зімовай японскай вішні "Сакуры". З чорна-белай палітры клавішаў з'явіліся скважная драпежніца-"Варона", вясёлы няўрымслівы "Негрыцёнак", жудасны "Прывід". І дзіўна, што адной аўтарцы належаць такія не падобныя па сваіх настроях творы, як радасная "Гульня дзяцей" ды змрочная фатальная "Вырачанасць". Праграму завяршыла сюіта "Кот-абібок", складзеная з чатырох частак: "Кот", "Птушачка", "Ноч", "Мышка" (прататып галоўнага героя — хатні пястун Марцін).

Мне падумалася пра тых, хто своечасова заўважыў талент Людмілы, рупліва адкрыў вытокі яе натхнення. Гэта, канечне, настаўніцы музычнай школы, у пятым класе якой вучыцца юная музыкантка: Тэрэза Ржан (акардэон) і Людміла Булыга (фартэпіяна), вельмі творчыя і ўважлівыя людзі. Дарэчы, у акардэон Люда "ўлюбілася" яшчэ пяцігадовай малечаю (магчыма, перадаліся схільнасці прадзеда, дзядулі і цёткі, якія спраўна валодалі гэтым інструментам).

Складаць музыку дзяўчына спрабавала з сямі гадоў, атрымоўваліся творы з "эстрадным" ухілам. А вось сур'ёзна займацца кампазіцыяй Людміла Юрчук пачала ў вядомага педагога Віталя Радзіёнава, старэйшыні асацыяцыі кампазітараў Гродзеншчыны. І за паўгода (сустрэчы праходзяць раз на тыдзень) дасягнула значных поспехаў.

Люда рыхтуецца да паступлення ў Лідскае музычнае вучылішча. Яна марыць стаць кампазітарам, стварыць ансамбль эстраднай музыкі. І прысвяціць свой талент роднай Беларусі. Маленькая крынічка, калі ёй своечасова чуйныя і добрыя рукі адкрыюць сцяжынку,ператворыцца ў шырокую паўнаводную раку і будзе дарыць радасць усяму жывому...

Васіліса ПАЗНУХОВА,
г. Ліда

Штогод напачатку ліпеня ў Вязынцы, дзе нарадзіўся Янка Купала, праходзіць свята беларускай паэзіі. Гэты год таксама не стаў выключэннем. 5 ліпеня ў Вязынку, каб ушанаваць Песняра, сабралася шмат народу — і не толькі з навакольных вёсак, але і з Мінска, і Маладзечна. Арганізавалі і правялі свята паэзіі "З адною думкаю аб шчасці Беларусі" Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Маладзечанскі райвыканкам, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы. Адкрыў і вёў імпрэзу дырэктар Купалаўскага музея Сяргей Вечар. Перад прысутнымі выступілі паэты Алесь Пашкевіч, Уладзімір Скарынкін, Віктар Шніп, Леанід Дранько-Майсюк, Людміла Рублеўская, Навум Гальпяровіч, Валерый Стралко, а таксама гучалі песні ў выкананні самадзейных калектываў Маладзечанскага раёна. Аматары паэтычнага слова маглі набыць кнігі пісьменнікаў.

Н. К.







ФОТА
Міколы ПЯТРОВА

# «З АДНОЮ ДУМКАЮ АБ ШЧАСЦІ БЕЛАРУСІ»











***Рыгор КОБЕЦ — першы беларускі пісьменнік, які (разам з А. Вольным) атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі (1935) за станаўленне і развіццё беларускай кінематаграфіі. 24 ліпеня спаўняецца 105 год з дня нараджэння Рыгора Якаўлевіча Кобеца, і 70 год яго фільму "Двойчы народжаны".***

# ПРАВАЛУ «ГУТЫ» НЕ БЫЛО

Алена КОБЕЦ-ФІЛІМОНАВА

Лёс "Гуты" бліскучы і цярністы. Рыгор Кобец напісаў сваю п'есу ў 1929 годзе. У тым жа годзе яе надрукаваў часопіс "Маладняк" у трох нумарах.

Першым заўважыў таленавіты твор малады тэатральны крытык Уладзімір Сядура: "...У рэцэнзуемым нумары часопіса зьмешчан драматычны твор — першы акт вялікай драмы "Гута" Рыгора Кобеца. У сучасны момант, калі мы вельмі бедныя на драматычную творчасць, з'яўленне такой рэчы, як "Гута" Рыгора Кобеца, вельмі дадатнае і значнае з'явішча. Яшчэ больш павялічвае ўвагу гэтай значнасці тэма драмы, узятая з рабочага жыцця. У драме, у вельмі яскравых і выпуклых фарбах на фоне дадатных і адмоўных бакоў жыцця рабочых шкляной гуты, закінутай у глушы, зачэплены і добра вырашаюцца хвалюючыя ўсю грамадскасць такія пытанні, як націяналізацыя вытворчасці, вынаходніцтва і інш." ("Савецкая Беларусь", 17 верасня, 1929 г.).



Вядомы паэт Рыгор Рэлес прыгадваў, як ён, будучы вучнем сёмага класа чашніцкай школы (у Віцебскай вобласці), прачытаў лекцыю пра "Гуту" сваім аднакласнікам, такую яна выклікала цікавасць нават яшчэ да пастаноўкі ў тэатры. "У той час, — прыгадваў Рэлес, — ніхто не чытаў надрукаваных п'ес. Звычайна п'есы глядзелі ў тэатрах. А з "Гутай" было іначай. Не было яшчэ яе пастаноўкі, а часопіс "Маладняк", у якім яна друкавалася, быў нарасхват. Нават на чаргу запісваліся ў бібліятэках, каб прачытаць гэту п'есу".

Цікавасць да "Гуты" была выклікана і тым, што вакол яе яшчэ да прэм'еры разгарэліся спрэчкі. Больш хвалілі, але і лаялі. Не было такой газеты ці часопіса, якія б не пісалі пра "Гуту". У сваіх успамінах пра Кобеца "Он выжил потому, что смеялся» Рыгор Львовіч пісаў: «В столице нашей республики пьеса долго не сходила со сцены БДТ-1 (так назывался театр имени Янки Купалы), и всегда, когда она ставилась, в зале был аншлаг» («Мишпоха», № 6, 1999).

Другі, хто сур'ёзна зацікавіўся п'есай, як толькі яна трапіла ў яго рукі, быў рэжысёр БДТ-1 Еўсцігней Афінагенавіч Міровіч. Ён адразу ж прыняў п'есу Кобеца да пастаноўкі, нягледзячы на незадаволенасць тэатральнай адміністрацыі. Больш таго, у чэрвені наступнага года ў Маскве мелася адбыцца першая ўсесаюзная алімпіяда тэатральнага мастацтва, і Міровіч прыняў рашэнне везці "Гуту" ў Маскву. Гэта пакрыўдзіла некаторых драматургаў, "ветэранаў" тэатра, бо на іхнюю думку, на ўсесаюзны прагляд трэба везці п'есу прафесійнага драматурга, а не нейкага там качагара. Справа ў тым, што Кобец яшчэ да публікацыі прыносіў "Гуту" ў тэатр, але далей адміністрацыі яна не пайшла, і Міровіч яе не чытаў. А качагару далі паварот ад варот. Паэт Анатоль Вольны напісаў пра першы візіт свайго сябра ў тэатр у гумарэсцы "Рыгор Кобец. Літаратурны сілуэт".

Каб жа на гэтым усё і скончылася! Цярністы шлях "Гуты" да славы яшчэ толькі пачынаўся. І справа не толькі ў амбіцыі асобных драматургаў, якія ўбачылі ў Лахматым непажаданага канкурэнта, а ў барацьбе старога з новым, тэатральных традыцыях з пралетарызацыяй, якая з нястрымнай сілай прарывалася ў тэатр, паэзію, літаратуру, ва ўсе віды мастацтва. Пачыналася пралетарызацыя ўсяго, яна пранікла паўсюдна. Гэта быў адзін з перагібаў кампартыі, які з аднаго боку не вельмі спрыяў росту нацыянальнай культуры, а з другога — даў беларускаму мастацтву выйсце на міжнародную арэну.

Дваццатыя гады былі найбольш складаныя, таму што сацыялізм толькі пачынаўся. Старое ламалася, але без бою здавацца не жадала, новае ж наступала імкліва, напорыста. І ў гэтай віхуры ўсё трашчала, бурліла...

У такой атмасферы прабівалася "Гута", робячы свае першыя крокі. Але на пачатку дарогі было досыць спакойна, калі не лічыць спрэчак у друку, бо спектакля яшчэ не было. Да алімпіяды заставалася дзевяць месяцаў. Калектыў тэатра ўзяўся ставіць п'есу. Пачалася звычайная рэжысёрская праца: чытка п'есы сумесна з аўтарам і артыстамі, выбар акцёраў на галоўныя і эпізадычныя ролі, рэпетыцыі. Нарэшце лютаўскі нумар "Маладняка" (1930) аб'явіў, што БДТ-1 рыхтуе да пастаноўкі п'есу "Шклозавод".

Захавалася інфармацыя ў прэсе, якая сведчыць аб вялікім поспеху спектакля "Гута" на яе прэм'ерах:

"У працягу зімовага сезону ў Гомелі і Магілёве БДТ-1 паставіў тры новых п'есы — "Міжбур'е", "Ярасць" і "Гуту". Усе тры п'есы прайшлі з вялікім поспехам і сведчаць аб несумненным мастацка-палітычным росце тэатра". ("Полымя", № 5-6, 1930, Беларуская культура і хроніка).

З таго ж часопіса:

"Пад кіраўніцтвам аўтара пастаўлена ў Магілёве Першым Белдзяржтэатрам новая п'еса Рыгора Кобеца "Гута". Акторскі калектыў на чале з Міровічам цалкам справіўся з задачай пастаноўкі. П'еса "Гута" будзе першай пастаўлена БДТ-1 на ўсесаюзнай алімпіядзе". ("Полымя", № 5-6, 1930, Беларуская культура і хроніка).

Першая прэм'ера "Гуты" адбылася ў Гомелі. Пасля прагляду "Гуты" ў Магілёве 17(?) мая, газета "Рабочий" друкуе вялікую рэцэнзію, у якой даецца станоўчая ацэнка спектаклю і п'есе:

"...Пастаноўшчык, заслужаны артыст рэспублікі Міровіч усяляк завастраў бытавы характар спектакля. Дзеючыя асобы п'есы падаюцца правільна, без утрыроўкі. З акторскім калектывам праведзена вялікая праца. Артысты паказалі, што яны цудоўна могуць спраўляцца з сучасным матэрыялам, што Першы Белдзяржтэатр знаходзіцца ў стане культурнага палітычнага росту. Асабліва добра ігралі артысты Крыловіч (Мароз) і Уладамірскі (Цыганок). Гэта два супрацьлеглых па характары чалавекі. Вынаходца Мароз — выключна сціплы, ён хоча ўвесь час заставацца ў ценю... А побач з ім бурны, поўны кіпучай маладосці і жадання ствараць камсамолец Цыганок. Яны аб'ядналіся — Мароз і Цыганок, каб зрабіць сапраўдную рэвалюцыю на гуце, замяніўшы старых майстроў-шклодуваў, старую, шкодную для здароўя вытворчасць шкломашынай. Мароз і Цыганок нібы дапаўняюць адзін аднаго. Крыловіч і Уладамірскі цудоўна зразумелі думкі аўтара і стварылі вельмі моцныя пераканаўчыя вобразы. Цікава паказаны тыпы майстроў..." ("Рабочий", 27 мая, 1930. З. Д. "Новая п'еса Грышы Лахматага (Кобец) у пастаноўцы БДТ-1".)

Аўтар таго ж артыкула піша: "...У штодзённым жыцці шмат захапляючага, цікавага. Трэба толькі прыкмеціць гэта, умець цікава падаць, стварыць сацыяльна значымае, каб пераканаць гледача... Тэатр добра справіўся з матэрыялам аўтара". Вось так станоўча ацаніў назіральнасць і здольнасці маладога драматурга рэцэнзент З. Д. (не ведаю, хто стаіць за гэтымі дзвюма літарамі). Па заслугах ацэнена ў гэтай рэцэнзіі і праца мастака-дэкаратара: "Мастак Крэйн стварыў выключна цікавае відовішча... І вогненная гута, і новая машына, усё гэта цудоўна спрацавана".

У тым жа годзе (1930) Белдзяржвыдат выпускае кнігу А. Некрашэвіча "БДТ-1", прысвечаную 10-годдзю тэатра, у якой аўтар падкрэслівае, што "Гута" ўдалая праца і што п'еса "Гута" адна з лепшых не толькі на беларускай сцэне". (Яна ставілася ў тэатрах амаль усяго Саюза і нават за мяжой).

На вялікі жаль, пачынаючы з пасляваеннага часу і да сённяшніх дзён, некаторымі беларускімі тэатразнаўцамі падаюцца фальсіфікаваныя факты аб поўным быццам бы правале спектакля "Гута" ў Магілёве перад самым выездам тэатра ў Маскву. Але прыведзеныя мною водгукі ў прэсе 30-х гадоў сведчаць не аб правале, а наадварот, аб вялікім поспеху трох новых п'ес, "Міжбур'я", "Ярасці" і асабліва "Гуты", з якімі тэатр выязджаў на гастролі па гарадах Беларусі ў зімова-вясновы сезон і якія збіраўся везці на алімпіяду. Дый хто павёз бы праваліўшуюся п'есу на ўсесаюзны прагляд!

Пра першыя цярністыя крокі і "шумны" поспех "Гуты" яшчэ да алімпіяды сведчыць і сам аўтар знакамітай п'есы, прыгадваючы 1929-1930-я гады: "У 1929 годзе я напісаў для тэатра п'есу "Гута". У гэтай п'есе я моцнымі мастацкімі фарбамі выпісаў яркія вобразы беларускіх рабочых, паказаў рост і моц рабочага класа Беларусі... Зразумела, што некаторыя сустрэлі п'есу ў штыкі, а разам з ёй і мяне самога. Тэатр адмовіўся яе ставіць на сцэне... І толькі праз год мне ўдалося, дзякуючы дапамозе Пралеткульта... дабіцца афармлення п'есы "Гута" на сцэне Беларускага Дзяржаўнага тэатра. Поспех быў "шумны", а ў 1930 годзе на ўсесаюзнай алімпіядзе мастацтваў п'еса атрымала першую прэмію ў Маскве".

Гэта была першая алімпіяда ў СССР. Пасля яе прагляд талентаў на розных спаборніцтвах стаў традыцыяй.

БДТ-1 паказаў дзве п'есы ў пастаноўцы рэжысёра Е. Міровіча — "Гуту" і "Міжбур'е". "Гута", як і планавалася, ставілася першай. Поспех спектакля быў трыумфальны.

Водгукі ў прэсе: "Московский корреспондент «Звязды» сообщает: "25 утром в помещении Московского Художественного театра состоялся спектакль Белорусского Государственного театра специально для членов жюри и участников Олимпиады. Шла пьеса Г. Лохматого «Гута». Спектакль имел величайший успех. Отдельные моменты игры во время действия прерывались бурными аплодисментами. После каждого действия занавес поднимался до десяти раз.

После спектакля выступающие с оценкой жюри отметили, что «Гута» — один из лучших спектаклей Олимпиады и должен занять одно из первых мест при присуждении премий». («Рабочий», 29 июня, 1930. «На театральной Олимпиаде»).

Пра тое ж пісаў і крытык Юрка Лявонны: "25 чэрвеня ў памяшканні МХАТа тэатр паказаў "Гуту" Рыгора Лахматага і 30 чэрвеня ў тэатры Рэвалюцыі "Міжбур'е" Д. Курдзіна.

Першы спектакль "Гуты", дадзены ў дзень для ўдзельнікаў алімпіяды, быў трыумфам БДТ-1. Кожная дзея выклікала велізарны ўздым у гледача і праводзілася гураганам апладысментаў..." ("Звязда", 15 ліпеня, 1930. Лявонны Ю. "Усесаюзная алімпіяда мастацтва народаў СССР. Буйны поспех БДТ на алімпіядзе").

Газета "Известия" адзначыла, што «оба олимпиадных выступления белорусского театра являются одной из самых ярких страниц всесоюзного смотра». А "Гуту" называлі "імянінніцай алімпіяды".

Пасля вяртання БДТ-1 з Масквы ў Беларусь, адбылася, нарэшце, прэм'ера "Гуты" на сваёй радзіме, у Мінску. Яна адбылася 14 ліпеня ў памяшканні БДТ-1.

Газета "Рабочий" пісала: "...Билеты на постановку начали распространять поздно, но несмотря на это, к 8 часам в театр уже начали стекаться трудящиеся, за 30-40 минут заполнив до отказа помещение зрительного зала. Мы знали об успехах театра в Гомеле, Могилеве, на Всесоюзной олимпиаде национальных театров в Москве, но успех постановки превзошел все ожидания.

Только прогудел гудок, только поднялся занавес, а зритель уже дружными аплодисментами встречает постановку. Пьеса непрерывно сопровождается аплодисментами. Зритель напряженно следит за ходом действия.

Театр значительно вырос за эти полгода отсутствия в Минске. Спаянность коллектива, четкая режиссерская работа сказывается в каждой мелочи, и особенно ярко виден рост театра, когда смотришь «Гуту» Григория Кобеца. Трудящиеся недаром в этот вечер устроили шумную овацию коллективу театра, его режиссеру тов. Мировичу». ("Рабочий", 14 июля, 1930. Е. С. "После всесоюзной олимпиады искусств. Постановка "Гуты" в Минске").

"Гута" заняла на алімпіядзе першае месца, падзяліўшы яго з грузінскай п'есай "Ламара", якую ставіў таленавіты рэжысёра Сандро Ахметэлі. Галоўную гераіню іграла Тамара Цулукідзе, вялікая актрыса Грузіі. У 1936 Ахметэлі быў расстраляны за "спробу зрабіць замах на жыццё Сталіна". Яго жонка Тамара Цулукідзе арыштавана ў 1937 за тое ж самае і саслана ў лагер на 10 год. У тым жа годзе расстраляны Дзмітрый Курдзін.У 1938 першы раз будзе арыштаваны Рыгор Кобец, другі раз — у 1941 і таксама сасланы на 10 год у сібірскі лагер, пасля якога ў пажыццёвую ссылку. Шмат загінула талентаў, удзельнікаў алімпіяды.

Прыгадаем гістарычныя падзеі таго часу. Грамадзянская вайна скончылася. Бальшавікі перамаглі і пачалі будаваць сацыялізм, пакуль што ў адной, асобна ўзятай краіне. Але пераможцы разумелі, што іх заваёвы трэба замацоўваць і спяшацца, пакуль капіталісты не задушылі маладую савецкую дзяржаву. У 1925 годзе XIV з'езд бальшавікоў прыняў курс на індустрыялізацыю краіны, у 1927 на XV з'ездзе — на калектывізацыю вёсак, у чэрвені 1930, у адзін час з Першай усесаюзнай алімпіядай праходзіў XVI з'езд ВКП(б) разгорнутага наступлення сацыялізму на ўсіх франтах, і асабліва на культурным. Культурны фронт — гэта літаратура і мастацтва.

Наступленне азначае вайну. Калі вайна — патрэбна зброя. Самая лепшая зброя — прапаганда. Каго мабілізаваць на культурны фронт? Пісьменнікаў, мастакоў, дзеячаў культуры. "Мастацтва — зброя рэвалюцыі" — цяпер гэта новы рэвалюцыйны лозунг. Мастацтва замест вінтоўкі. Але інтэлігенцыі няма веры, бальшавікі ўпэўнены, што яна падвядзе. Зноў пацягне ў сваё "мяшчанскае буржуйскае стойла", таму трэба выхаваць сваю інтэлігенцыю, пралетарскую, з рабочых і сялян. Яны адваяваліся ў грамадзянскую вайну, стаміліся і не адмовяцца ад новага, культурнага жыцця. Мастацтва павінна працаваць на сусветную пралетарскую рэвалюцыю.

І яны працавалі. А замест падзякі — куля ў патыліцу або праца ў лагерах і пажыццёвая ссылка. І сёння скажаць п'есы пацярпелых драматургаў амаральна і недаравальна.

У мяне такое ўражанне, што сучасныя мастацтвазнаўцы не заўважылі галоўнай ідэі п'есы Кобеца "Гута". Усе дружна сталі пісаць, быццам рабочы-вынаходнік Мароз ствараў шкловыдзімальную машыну для таго, "каб павялічыць выпуск прадукцыі, паспяхова выконваць і перавыконваць планы першай пяцігодкі". На самай справе рабочага-Мароза хвалявала здароўе людзей, якія хварэлі на сухоты і паміралі. "Гута" — псіхалагічная драма, а не камуністычная агітка. Крытыкі 20-30-х гадоў ідэю п'есы зразумелі правільна, таму і пісалі, што Мароз і Цыганок зрабілі рэвалюцыю на гуце, замяніўшы шкломашынай саматужную працу, шкодную для здароўя рабочых.

Хачу нагадаць забыўлівым тэатразнаўцам і пра тое, што п'еса Кобеца "Гута" напісана ім у 1929 годзе, а не ў 1930. Упершыню надрукавана ў часопісе "Маладняк" у тым жа 1929 годзе, а не ў 1927 і не ў 1930.

І правалу "Гуты" на прэм'еры не было.

## СТО НЯНЕК — ДЗІЦЯ БЕЗ НОСА

Кіназнаўца В. Смаль аб першых кроках у кінадраматургію Кобеца пісаў: "У 1931 г. на экран выходзіць фільм "Ураган" па сцэнарыі Р. Кобеца (сумесна з Б. Брадзянскім). Яго нельга яшчэ назваць мастацкім. Гэта хутчэй агітпрапфільм. Сцэнарый быў пабудаваны на сапраўдных фактах, звязаных з будаўніцтвам аршанскага ільнокамбіната. Несумненнай вартасцю гэтага першага вопыта кінадраматурга было жывое адчуванне сучаснасці, аднак матэрыял быў вырашаны яшчэ няўпэўнена, нясмела.

...І тым не менш строга судзіць гэты фільм нельга. У пачатку 30-х гадоў такія фільмы займалі вялікае месца ў кінавытворчасці ўсёй краіны. Яны, як і "Окна "Роста", адгукаліся на ўсё тое новае, што адбывалася ў краіне, і былі надзвычай неабходнымі. Сцэнарыі пісаліся хутка, у самыя кароткія тэрміны. У далейшым гэтыя фільмы сыгралі станоўчую ролю ў распрацоўцы кінамайстрамі сучаснай тэмы ў мастацкіх фільмах".

Фільм "Ураган" выйшаў на экран у 1931 годзе 25 ліпеня, у дзень з'езда рабселькораўцаў, як і планавалася. Яшчэ да выхаду

(Працяг на стар. 14—15)

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 13.)

яго на экран, 12 сакавіка газета "Звязда" пісала: "Гураган" па сваёй актуальнасці і палітычным значэнні — каштоўны ўклад у скарбніцу беларускай кінематаграфіі.

Аднак гэта вартасць у вялікай меры зніжаецца палітычнымі прабеламі, якія дапушчаны аўтарамі сцэнарыя... паказ партыйнай арганізацыі змазвае кіруючую ролю партыі..."

Газета адзначыла, што сцэнарый "Гураган" быў абмеркаваны на вялікім сходзе рабкораў, ваенкораў, сцэнарыстаў і рэжысёраў Белдзяржкіно сумесна з супрацоўнікамі газеты "Звязда". "Факт такога шырокага і актыўнага абгаварэння кінасцэнарыя, — пісала газета, — з'яўляецца адным з першых у гісторыі Белдзяржкіно.

...Пасля распрацоўкі ўнесеных дадаткаў і змен, сцэнарый будзе паўторна абгавораны з рабкорамі і ваенкорамі. У працэсе здымак будзе наладжаны сталы прагляд асобных кадраў".

Пад такім "абстрэлам" і пільным надзорам камуністаў ствараўся першы беларускі фільм, які адлюстраваў ролю друку ў будаўніцтве Беларусі. У Кобеца, Брадзянскага і рэжысёра Вайнштока "нянек" аказалася процьма. А калі сто нянек, дзіця застаецца без носа. Так яно і атрымалася. "Звязда", якая ўзяла на сябе ролю партыйнага выхавацеля і шэфства над брыгадай кінастудыі, што здымала фільм, пасля выхаду яго на экран пісала, што фільм зведзены "ў поўнай меры да плакатнага жанру агіткі". Газета высцебала сама сябе.

Вось як бывае, калі няма свабоды слова, калі за цябе думаюць ідэолагі, і цэлым гуртам наступаюць табе на пяткі.

# ПРАВАЛУ «ГУТЫ» НЕ БЫЛО

## КАЛІ ЎЦЯКАЛА СОНЦА...

Кіназдымкі "Двойчы народжанага" пачаліся ўвесну 1932, канчаліся ўвосень 1933, калі "ўцякала сонца". (Гэта метафара належыць Кобецу). 1 лістапада 1933 года кінастужка была здадзена дырэкцыі "Белдзяржкіно". У тым жа месяцы фільм выйшаў на экран.

Пасля шматгадовых пошукаў мне ўдалося знайсці артыкул Рыгора Кобеца "Як я працаваў над першай гукавой кінадрамай "Двойчы народжаны", надрукаваны ў газеце "Савецкая Беларусь" у 1932 годзе 27 лістапада. Гэты цікавы аповед пра тое, як стваралася першае гукавое беларускае кіно, два разы знікаў з Нацыянальнай бібліятэкі як рэдкае выданне. Нарэшце з'явілася магчымасць азнаёміцца з яго зместам:

"Перад тым, як расказаць аб працы над першай гукавой беларускай кінадрамай, — пісаў Рыгор Якаўлевіч, — мне хочацца сказаць некалькі слоў наогул аб рабоце ў галіне кінематаграфіі. Трэба адзначыць, што работа над гукавымі карцінамі ў практыцы саміх аўтараў, рэжысёраў, аператараў, актораў і г. д. з'яўляецца работай вельмі новай, нявывучанай, неўдасканаленай, а таму часта памылковай і не надта дабраякаснай. Часта мы, ставячы гукавыя карціны, не ўлічваем вялікага значэння гуку і, бывае, што нашы карціны мала чым адрозніваюцца ад нямых карцін і робяцца бадай так, як і нямыя. Мне здаецца, што ў гэтым ёсць буйная памылка, мне здаецца, што гук у гукавой кінадраме або камедыі павінен арганічна ўваходзіць у твор, адыгрываць сваю ролю нават у той час, калі на экране не будуць дэманстравацца кінакадры. Мне здаецца, што гукавая карціна, калі яна напісана, павінна быць так пабудавана, каб яе ні ў якім разе нельга было засняць нямой. Гук павінен умацоўваць карціну, гук павінен хваляваць гледача і слухача, ён павінен быць вельмі значнай неад'емлемай часткай усёй работы. Вось чаму, калі я пачаў пісаць гукавую кінадраму, і асабліва першую беларускую гукавую, перада мной паўстала пытанне і гуку, і ідэі, і вырашэння пытання аб паказе жывых, моцных і цікавых людзей... калі я ўзяўся за гэтую кінадраму, дык яна павінна быць зроблена так, каб глядач хваляваўся, радаваўся, быў вельмі зацікаўлены...

Працаваў... шмат думаў і напісаў.

Здаў у мастацкі савет кінафабрыкі "Савецкая Беларусь". Прынялі, ухвалілі. Кінадрама лягла ў партфель. Праз некаторы час пачалі зноў разглядаць. Я зноў прачытаў кінадраму, і захацелася чагосьці лепшага. Работа здавалася цікавай, але я адчуваў, што неяк хутка гэты канакрад перавыхоўваецца. Не паверыць глядач! Малавата драматургічнай напружанасці. Зноў пачаў працаваць... Тым часам надвор'е мянялася. Сонца ўцякала.

...А карціна была разлічана на веснавую натуру. Удалося зрабіць так, каб можна было здымаць увосень...

...Нарэшце, зрабіў. Мне здаецца, што добра. Але гэта яшчэ не значыць, што ў карціне няма слабых месц, гэта не азначае, што карціна на ўсе 100 працэнтаў — таленавіта. Гэта яшчэ не значыць, што калі карціна падабаецца мне і некаторым людзям, дык у ёй не можа быць памылак. Але наогул трэба сказаць, што карціна абяцае быць моцнай і цікавай.

Зараз ідуць здымкі ў Сухуме. Рэжысёр Аршанскі, аператар Рабаў, кампазітары Цікоцкі і Любан працуюць над кінадрамай "Двойчы народжаны". У галоўных ролях — заслужаны артыст БССР У. Крыловіч, Васілеўскі, Рагавенка і Мазалеўская. Такім чынам нам удалося прымацаваць да карціны нашы беларускія мастацкія сілы. Будзем спадзявацца, што першы блін не выйдзе камяком".

У выніку такой напружанай працы і патрабавальнасці да сябе з першых варыянтаў сцэнарыя павыляталі некаторыя героі, якіх ігралі беларускія артысты. Кіраўніцтва Белдзяржкіно запрасіла на кіназдымкі расійскіх. У фільме здымаліся Бабачкін, Кміт, Цароў, Гурэцкая. З беларускіх артыстаў засталіся Уладзімір Крыловіч (у галоўнай ролі Рыгора Лопуха) і Павел Малчанаў (у ролі сельскага хлопца Ваські). Кампазітара Цікоцкага і Любана замяніў Дунаеўскі, які толькі пачынаў сваю працу на беларускай кінастудыі, запрошаны Корш-Сабліным. Няма сумнення ў тым, што беларускія кампазітары дапамаглі апошняму ў выбары нацыянальнага песеннага фальклору.

Задума Рыгора Якаўлевіча стварыць фільм такі, каб глядач "хваляваўся, радаваўся, быў вельмі зацікаўлены", нягледзячы на замены, удалася. Вядомы крытык Сяргей Дынамаў пісаў: "В картине есть что-то необычайно привлекательное и красивое. Эта привлекательность напоминает мягкую улыбку, освещающую лицо хорошего человека... Задушевность, необыкновенная теплота пронизывает весь сценарий, и эту авторскую интонацию сохранили режиссёр, оператор и актеры в своей работе, что дало блестящий результат: фильм получился впечатляющий, волнующий» (Газета «Кино», 16 сакавика, 1935).

Высокую ацэнку фільму і сцэнарысту дала газета "Известия»: «Сценарий к этому фильму написан талантливым белорусским драматургом Гр. Кобецом. Это один из немногих у нас сценариев о колхозе, в котором чувствуется мастерская рука драматурга...

«Дважды рожденный» — безусловная удача Белгоскино, говорящая о росте кинематографии советской Белоруссии». («Известия», 21 мая, 1934. А. Вырвич. «Дважды рожденный»).



А пачынаўся сцэнарый так:

"Ціхая раніца. Вясновае сонца залівае малады лес. У зялёных карункавых воблачках стаяць тонкія бярозкі. А побач з гнуткімі бесвольнымі дрэўцамі, якія зусім нядаўна выкінулі лісцікі, расце хвойнік. Ад яго парасткаў з клейкімі пупышкамі, нагрэтых сонцам, ідзе прыемны смалісты пах.

Ціха ў лесе. Быццам яшчэ не прачнуўся.

Раптам недзе ў гушчары загучала песня. Вясёлая, зухаватая, з прысвістам, яна разбудзіла лес, гучным рэхам аддаючыся ў сасновым бары.

*Ой ды гуляў вецер*
*ды ў чыстым полі.*
*Гэй!*
*Гэй!*
*Дзе шукаў малойчык*
*сваёй яснай долі...*

З зарасніку на паляну выйшаў прыгожы зграбны хлопец. Гэта Рыгор Лопух. Датэрмінова вызвалены з гомельскай працоўнай калоніі, ён спяшаецца ў сваю родную вёску, каб пачаць новае сумленнае жыццё. Ён крочыць па бязлюднай, залітай сонцам дарозе шырока, бадзёра, упэўнена. За спіной матляецца невялікі клунак. Гэта ўсё яго багацце. Але твар у Рыгора шчаслівы. Ён жа так даўно не бачыў роднага, мілага яго сэрцу кута! І здавалася, што ўсё наўкол — і лес, і сонца, і блакітнае неба з воблачкамі — таксама з цеплынёй сустракаюць свайго вясёлага небараку-земляка, былога канакрада. Вось і спявае Рыгор, не ведаючы, як выказаць свае пачуцці, сваю любоў да родных мясцін, якіх ён доўга не бачыў і па якіх дужа засумаваў. Далёка па лесе разносіцца яго маладзецкі голас:

*А дзе ж тая долечка,*
*што не адшукаці?*
*Гэй!*
*Гэй!*
*А дзе ж тая дзяўчыначка,*
*што не распазнаці?*
*Ух! А дзе ж тая дзяўчыначка,*
*што не распазнаці...*

Лёгка пераскочыўшы цераз пень, хлопец ідзе, энергічна махаючы рукой, быццам дырыжыруе самому сабе. Позірк яго ледзь насмешлівы, поўны маладога запалу. Разам з песняй вырываецца на волю шчырая душа.

...Лясная дарога вывела Рыгора на ўзгорак. Ён спыніўся і ў захапленні глядзіць уніз. Там, у нізіне, шырока раскінулася вёска. Яна патанала ў бела-зялёнай квецені садоў. А над ёй, у ярка-блакітным небе чародкай плылі, як гусі-лебедзі, аблокі.

— Вось яна! — з палёгкай выдыхнуў Рыгор і скінуў на зямлю клуначак".*

У 1935 годзе Рыгор Якаўлевіч атрымаў званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі за станаўленне і развіццё беларускага кінамастацтва.

Першы прафесійны кінадраматург Рыгор Кобец разам з рэжысёрам Э. Аршанскім, артыстам У. Крыловічам, аператарам Б. Рабавым і ўсёй кіназдымачнай групай стварылі першы фільм на беларускай мове, першы гукавы нацыянальны фільм, у якім распрацавана беларуская тэма (вёска ў час калектывізацыі), кінагероі размаўляюць на чыстай беларускай мове, іграюць беларускія акцёры. Гэта перш фільм, у якім створаны яскравы нацыянальны характар "История белорусского кино» пісала: "Образ крестьянина Григория Лопуха, созданный авторами фильма «Дважды рожденный» Г. Кобецом, Э. Аршанским и выдающимся белорусским артистом В. Крыловичем, пожалуй, самый большой успех кинематографа республики в создании национальнага характера".

Сёлета "Двойчы народжанаму" споўнілася 70 год. Вось толькі фільма няма ў беларусаў. Знік да 100-годдзя з дня нараджэння драматурга. А ён так стараўся, калі пісаў сцэнарый. Так хваляваўся, калі на кіназдымках восенню ўцякала сонца...

## ПАПЛАЎКІ ДЛЯ КОНЕЙ

Багаты жыццёвы вопыт у Рыгора Кобеца. Імперыялістычная і Грамадзянская вайна і дзве рэвалюцыі за спіной. Яны і падказалі характары і сюжэты для кінатвораў, эпізоды з ваенных баталій. У тым ліку і для сцэнарыя пра грамадзянскую вайну на Палессі.

Ведаў ён, як берaглі сваіх коней махноўцы. І каб не танулі ў рацэ на пераправе, рабілі для іх паплаўкі з чарацін. Адзін з такіх эпізодаў і скарыстаў Рыгор Якаўлевіч у сцэнарыі "Паўстанне гневу":

"Ціха палошчацца рачныя хвалі, і неяк незвычайна шамацяць нябачныя ў тумане чараты. Мільгаюць постаці-здані туды-сюды, кладуць ля самай вады вялікія снапы чароту. Жнуць сярпамі чарот сяляне, складаюць вялікімі ахапкамі, звязваюць у снапы. Ідзе па беразе Максім Ляўкоў і бязгучна шавеліць вуснамі — падлічвае снапы. Падыходзіць да селяніна і шэпча:

— Колькі?

— Не менш, як сотні тры будзе. Па два на кані... у самы раз, — зашаптаў той у адказ.

...Знакам падае каманду камандзір. Паспешна прывязваюць коннікі чараціныя паплаўкі да сёдзел. Яшчэ адна каманда — ўскочылі яны на коней, ускінуліся ўгорку пікі... і рушылі коннікі, пяшчотна гладзячы сваіх коней. Падбадзёрваюць іх. Фыркаюць коні, прывычна і лёгка плывуць яны".

Шмат чаго запомнілася будучаму кінадраматургу з ваенных прыгод грамадзянскай вайны. І пра тое, як тры махноўцы ўцякалі ад дзянікінцаў. Двое ўпрэгліся ў тачанку замест забітага куляй каня (тачанку прыдумаў Махно, а не Будзёны), а трэці, седзячы ў тачанцы, страчыў з кулямёту. Так яны ўратаваліся ад пагоні.

Чытаем у сцэнарыі "Паўстанне гневу" эпізод, у якім палескія партызаны ўцякаюць ад балахоўцаў:

"Выляцеў з-за бугра на драбінах дзед Цімох. Кідаюць партызаны кулямёт на дно драбін, ускочыў туды і Даніла, а за ім Максім з Алесем.

— Гані!.. За мост! — крычыць Алесь.

Выцяў Цімох каня пугаўём — як апараны паскакаў конь, вынес драбіны на дарогу і павярнуў да моста. Але дагнала яго шрапнель — тыцнуўся конь галавой у зямлю, задрыгаў нагамі. Зноў рвануліся ў атаку балахоўскія пехацінцы. Страчыць па іх Алесь з ручнога кулямёту. Крыкнуў:



— Максім!.. Рэж збрую!

Спешна рэжа вупраж Максім. Схапілі яны абодва аглоблі і, як упрэжаныя коні, пакацілі драбіны разам з кулямётам, Данілам і дзедам Цімохам уніз па схіле да моста. Хрыпла дыхаюць Алесь і Максім. бягуць, не выпускаючы аглоблі. Нясуцца яны па дарозе, уздымаючы за сабой пыл. Гоняцца за імі балахоўцы. Трыццаць коннікаў. Вось-вось даганяць. Тарахцяць драбіны, падскокваюць на выбоінах. Тупаюць капыты балахоўскіх коней ужо за самымі спінамі, бліснулі на сонцы клінкі шашак, вось-вось апусцяцца на галовы ўцекачоў, але раптам... затахкаў з драбін кулямёт Данілы. Грукаюцца на дарогу коннікі, коні. Кінуліся балахоўцы ўрассыпную, хто куды. Уздыбіўся конь пад карнетам, чмякнуўся вобзем, падмяў пад сябе седака. Драбіны ўжо ўзляцелі на мост, а Данілаў кулямёт усё тахкае, тахкае...

— Ур-р-р-а-а-а-а-а! — грыміць урачыста з партызанскіх акопаў, і часты агонь паласнуў адтуль па праціўніку.

А як толькі драбіны праляцелі мост... страшэнны выбух скалануў паветра. Вогненным смерчам *узляцелі ў неба бярвенні і* дошкі над тым месцам, дзе толькі што быў мост.

— Ур-р-р-а-а-а-а-а! — зноў пераможна грыміць з акопаў, і не толькі з акопаў, а з усяго партызанскага берага.

Густы чорны дым агарнуў абломкі моста, бераг Пцічы і ўсё наваколле".

Сцэнарый "Паўстанне гневу" быў напісаны Кобецам і Вольным пасля таго, як у 1935 годзе старшыня Саўнаркома Мікалай Мацвеевіч Галадзед звярнуўся да пісьменнікаў і

---

***Кінасцэнарый адноўлены ў глыбокай старасці Р. Кобеца.**





# «КІНАФАРМАТ 4х4»

З 17 па 20 ліпеня ў чатырох кінатэатрах Мінска ("Аўрора", "Бярэсце", "Мір", "Перамога") гледачы маюць магчымасць убачыць чатыры яскравыя кінастужкі, адзначаныя прызамі на вядомых міжнародных кінафестывалях: "Піяніст" Р. Паланскі ("Залатая пальмавая галіна" Канскага фестывалю, 7 прэмій Французскай кінаакадэміі "Сезар", 3 "Оскара", у тым ліку за лепшую рэжысуру, лепшую мужчынскую ролю (Эдрыен Броўдзі) і лепшую сцэнарную адаптацыю (Рональд Харвуд); **"Чытай па вуснах"** Ж. Адрыяна (3 прэміі Французскай кінаакадэміі "Сезар"); **"8 міля"** К. Хэнсана (прэмія "Оскар" у намінацыі "Лепшая песня"); "Цёмныя воды" Х. Наката (прыз Брусельскага МКФ фантастычных фільмаў за лепшую рэжысуру).

**18 ліпеня:** "8 міля" (к-р "Мір"), "Чытай па вуснах" (к-р "Бярэсце"), "Цёмныя воды" (к-р "Аўрора"), "Піяніст" (к-р "Перамога").

**19 ліпеня:** "Чытай па вуснах" (к-р "Мір"), "Піяніст" (к-р "Аўрора"), "Цёмныя воды" (к-р "Бярэсце"), "8 міля" (к-р "Перамога").

**20 ліпеня:** "Піяніст" (к-р "Мір"), "Чытай па вуснах" (к-р "Аўрора"), "8 міля" (к-р "Бярэсце"), "Цёмныя воды" (к-р "Перамога").

## ЦІ ТО МУЖЧЫНА, ЦІ ТО КІНГ-КОНГ

**З 12 ліпеня ў сталічных кінатэатрах пачаў дэманстравацца ўжо добра разрэкламаваны кінакомікс "Хаян" у рэжысуры вядомага Энга Лі.**

**Хаян у перакладзе з англійскай — вялікі нязграбны чалавек. Па традыцыі славутых кінакоміксаў (напрыклад, "Бэтмэна"), у Хаяна — ці то Кінг-Конга, ці то знакамітага анімацыйнага Шрэка — ператвараецца малады вучоны Брус Банер, які ў выглядзе зялёнага монстра з чырвонымі вачыма пачынае змагацца з усемагчымымі злачынцамі (якім, да прыкладу, з'яўляецца генерал Рос). Вядома, Хаян — гэта не пачвара, ён здольны адрозніць сапраўднае зло ад несапраўднага і нават кахаць, клапаціцца пра любую дзяўчыну (актрыса Д. Канчэлі, узнагароджаная "Оскарам" за ролю ў фільме "Гульні розуму"). Хоць стужка "Хаян" і нашпігавана ўсялякімі камп'ютэрнымі штукарствамі, але ў ёй занатаваны някепскі сэнс. На думку рэжысёра Энга Лі, "Хаян" — гэта псіхалагічная драма аб цёмных кутках у душы кожнага чалавека, аб зялёнай пачвары гневу, зайздрасці, скнапасці і страху ўнутры нас, аб праблеме бацькоў і дзяцей. А вось расійскі кінакрытык Ю. Гладзільшчыкаў упэўнены, што "Гісторыя пераўтварэння маладога вучонага ў Хаяна — гэта чарговая варыяцыя на класічную тэму Джэкіла і Хайда. Хаян, як і Хайд, — сімвал унутранай лютасці і прагі неабмежаванай свабоды, якая сядзіць у душы ўсялякага інтэлігентнага доктара Джэкіла і ўвогуле любога з нас"...**

**В. Б.**



*На здымку: кадр з кінафільма "Хаян".*

## ВЫСТАВЫ

**Нацыянальны мастацкі музей РБ**

**вул. Леніна, 20, тэл. 227-45-62**

**Да 26 верасня** — "Шэдэўры Траццякоўскай галерэі": выстава рускіх мастакоў XVIII-XX стагоддзяў.

**Да 25 жніўня** — выстава "Мастацтва Японіі".

**Да 2 жніўня** — "Мая Беларусь", графіка Міхаіла Карпука.

**Мемарыяльны музей З. Азгура**

**вул. Азгура, 8, тэл. 236-73-01**

**Да 1 верасня** — выстава "Аблічча думкі" (да 75-годдзя з дня нараджэння скульптара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Сяргея Вакара), скульптурныя партрэты творчай інтэлігенцыі Беларусі



*НА ЗДЫМКУ: карціна Л. ШЧАМЯЛЁВА "Радзіма"*

**Беларускі дзяржаўны музей Вялікай Айчыннай вайны**

**пр. Ф. Скарыны, 24а, тэл. 227-56-11**

**Да 1 жніўня** — мастацкая выстава "Памяць б'е ў званы", прысвечаная 60-годдзю Хатынскай трагедыі.

**Да 1 жніўня** — выстава "Сямейны альбом" (фотаздымкі, дакументы, побытавыя рэчы беларусаў розных пакаленняў).

**Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі**

**вул. К. Маркса, 12, тэл. 227-43-22.**

**Да 1 верасня** — выстава "У пошуках страчанага", прысвечаная Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры Беларусі (дакументы, фотаздымкі, кнігі).

**Да 30 ліпеня** — "Я малюю Мінск", графіка Уладзіміра Жаркова.

**Музей гісторыі беларускай літаратуры**

**вул. М. Багдановіча, 15, тэл. 234-72-61**

**Да 1 верасня** — "Алесь Адамовіч. А для вечнасці Беларусь".

**Да 2 жніўня** — фотавыстава "Падземная Няміга".

**Да 4 жніўня** — "Дамы і мода стагоддзяў", лялькі Святланы Шалыніна.

**Музей гісторыі кіно**

**вул. Свярдлова, 4, тэл. 227-10-75.**

"Залаты фонд беларускага кіно", выстава касцюма ў беларускім кінематографе (пастаянная экспазіцыя).

**Дзяржаўны музей гісторыі тэатра і музычнай культуры РБ Музычны зав., 5, тэл. 229-26-65.**

Выстава "Народны па годнасці", прысвечаная 120-годдзю з дня нараджэння У. Галубка (пастаянная экспазіцыя).

"Вытокі тэатральнага і музычнага мастацтва на Беларусі" (пастаянная экспазіцыя).

**Галерэя "Мастацтва"**

**пр. Ф. Скарыны, 12, тэл. 227-83-63**

**Да 28 ліпеня** — жывапіс Мікалая Апіока.

**Галерэя "Вільнюс" вул. Каліноўскага, 55, тэл. 265-49-27**

**Да 1 верасня** — выстава "Зачараваныя душы" (калекцыя работ Стэфаніі Станюты)

**Гарадская мастацкая галерэя твораў Л. Шчамялёва**

**пр. Ракасоўскага, 49, тэл. 291-16-76**

Калекцыя работ Л. Шчамялёва (30 твораў розных жанраў), пастаянная экспазіцыя.

**Галерэя "Славутыя майстры"**

**Камунальная набярэжная, 6, тэл. 283-28-25**

**Да 30 ліпеня** — выстава "Прыгажосць даўжынёю ў жыццё", акварэль Тацяны Балашко-Высоцкай.

## ЦЫТАТА АФІШЫ



**Беларуская актрыса Святлана ЗЕЛЯНКОЎСКАЯ пра адчуванне сябе знакамітай: "Напэўна, у нашай краіне аб гэтым нельга гаварыць, бо кіно пасапраўднаму не раскручваецца, хаця да нашай карціны была значная цікавасць у журналістаў, і я спадзяюся, будзе ў гледачоў, бо рэкламу зрабілі добрую. Думаю, у той жа Расіі можна стаць за некалькі дзён зоркай ці раптам прачнуцца знакамітасцю, а ў беларускага гледача, на жаль, мала цікавасці да сваёй жа беларускай культуры. Мы пакуль што збольшага жывём замежнымі падзеямі ў мастацкім жыцці, і гэта крыўдна і скрушна, але, мне здаецца, сітуацыя выпраўляецца..."**

**"Любоў, зброя і свабода — жаночага роду..."**

**"Звязда", 5 ліпеня 2003 года**




Выходзіць З 1932 ГОДА
**У 1982 годзе ўзнагароджаны ордэнам Дружбы народаў**

**ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР**
**Віктар ШНІП**







**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**
**ТЭЛЕФОНЫ:**
**галоўны рэдактар — 284-6673**
**намеснік галоўнага рэдактара — 284-4404**
**адказны сакратар — 284-6673**

**АДДЗЕЛЫ:**
**публіцыстыкі — 284-7965**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7965**
**літаратурнага жыцця — 284-7965**
**крытыкі і бібліяграфіі — 284-7965**
**паэзіі і прозы — 284-7965**
**музыкі — 284-8153**
**тэатра, кіно — 284-8153**
**выяўленчага мастацтва — 284-7965**
**карэктарская — 284-8091**
**бухгалтэрыя — 284-6672**
**Тэл./факс — 284-84-61**

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 79

Індэкс 63856 Наклад 1521
Нумар падпісаны ў друк 16.07.2003 у 15.00

Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і мастацтва"

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715

Заказ 2087

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12